

Ноч Купалы ў Залуках➔4


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714




Агароднічкі➔8


http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl



№ 27 (2982) Год LVIII | Беласток, 7 ліпеня 2013 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# „БЕЛАВЕЖА” ў пяцідзесяціпяцігоддзе

**Беларускае літаратурнае аб'яднанне „Белавежа”было заснаванае 8 чэрвеня 1958 года пры рэдакцыі тыднёвіка беларусаў „Ніва”. Сярод пачынальнікаў беларускага літаратурнага беларускага руху ў Польшчы былі, між іншым, Георгій Валкавыцкі, Сакрат Яновіч, Уладзімір Гайдук, якія нядаўна адышлі ў іншы свет. Удзельнікі мерапрыемства ўшанавалі памяць памерлых „белавежцаў”, у тым ліку і Яшы Бурша (Яна Анісэровіча), Алены Анішэўскай, Міхася Шаховіча, Васіля Баршчэўскага, Міколы Гайдука хвілінай маўчання.**

Урачыстая імпрэза, прымеркаваная да 55-годдзя літаратурнага аб'яднання „Белавежа”, адбылася 29 чэрвеня ў Беластоцкім універсітэце. Прагучалі ўрачыстыя прамовы і віншаванні. На святкаванні літаб'яднання сабраліся яго сябры, прыехалі таксама запрошаныя госці з Беларусі, Польшчы і Вялікабрытаніі, прысутнічалі генеральны консул Рэспублікі Беларусь у Беластоку Аляксандр Берабеня, старшыня БГКТ Ян Сычэўскі.

— Сёння мы, беларускія пісьменнікі Польшчы, — сказаў старшыня літаб'яднання Ян Чыквін, — святкуем незвычайны для творчых арганізацый юбілей. Юбілей 55-годдзя нашага творчага літаб'яднання, фактычна Таварыства беларускіх пісьменнікаў у Польшчы. У свой час па-за межамі Беларусі стварыліся два творча-культурныя асяродкі. Адзін — у ЗША, з сядзібай у Нью-Йорку, а другі — у Беластоку. Творчасць беларускіх пісьменнікаў у Польшчы развівалася ў адметным асяроддзі, калі асяроддзе рознілася і ад савецкага, і ад цяперашняга беларускага, і эміграцкага. А адначасова літаратура „белавежцаў” не выпадала ані з польскага, ані беларускага нацыянальна-культурнага кантэксту. Паралельна невялікая тэрыторыя нашага рэальнага існавання і поўная агульнасць лёсаў спараджалі два вектары развіцця, літаратурных тэм і матываў „белавежцаў”. З аднаго боку памкненне да паэтызацыі сваёй малой айчыны, заземленасць у штодзённай і непаўторнай нашай эмпірыі, нашай рэчыўнасці, а з другога — патрэба філасофскай заглыбленасці, абагуленасці ў асэнсаванні ўніверсальных чалавечых каштоўнасцей... Заснавальнікамі „Белавежы” было 18 чалавек, між іншым Георгій Валкавыцкі, Віктар Швед, Яша Бурш, Мацей Канапацкі, Уладзімір Гайдук, Вацлаў Асіповіч, Восіп Малеша, браты Андрэй і Янка Беразоўцы, Мікола Буцылін, Пётр Ластаўка, Міхась Баравік, Вінцук Склубоўскі, Мар'ян Пецюкевіч, Дзмітры Шатыловіч і Сакрат Яновіч. І сёння дзейсных белавежцаў прыблізна столькі ж. Як на пачатку, „Белавежа” спалучае ў сваіх шэрагах твораў адразу трох-чатырох пакаленняў. Найстарэйшым сябрам нашай арганізацыі застаецца Антон Васілеўскі („Антось з Лепля”), народжаны ў 1891 годзе, а наймалодшая цяпер нашая сяброўка — Кацярына Сянкевіч — народжаная роўна сто гадоў пазней — у 1991 годзе. Гэты стогадовы біяграфічны фактар, біялагічны дыяпазон гаворыць пра яе культурна-нацыянальную ўкаранеласць. Цягам 55 гадоў „Белавежы” яе літаратурна-мастацкую дзейнасць тварылі і твораць больш за сто асоб. А выдавецкай дзейнасці пачатак дае „Рунь” у 1959 годзе. Выдадзена 230 найменняў кніг, у тым ліку 86 кніг у серыі Бібліятэкі „Белавежы”, 17 тамоў „Тэрмапілаў” і 14 нумароў „Году беларускага”. А колькасць паасобных твораў, апублікаваных усімі „белавежцамі” ў аўтарскіх кнігах, на літаратурных старонках, у календарах, альманахах, краёвых і замежных выданнях, а таксама ў перакладах застаецца непалічанай. Гэтыя факты гавораць адназначна, што беларуская літаратура Польшчы — з'ява невыпадковая, а гістарычна-культурны вынік глыбокага нацыянальнага ўсведамлення сябе — беларусаў — беларусамі. Творчасць „белавежцаў” з'яўляецца выдатным прыгожым летапісам гэтай укаранёнай нацыянальнай свядомасці, якая безупынна аднаўляецца, безупынна асвяжаецца і з'яўляецца жывой. Многія нашы творы трапілі ў школьныя праграмы гімназій і ліцэяў, вывучаюцца на спецкурсах у беларускіх вышэйшых навучальных установах. Пісьменнікі „Белавежы” здаўна ўключаны ў агульнабеларускі літаратурны працэс і культурна-навуковы абмен каштоўнасцямі. Пісьменнікі, згуртаваныя ў „Белавежы”, павінны мець свядомасць сваёй значнасці ў гэтых працэсах і несці асабістую адказнасць за падараваны ім найперш творчы талент.



Старшыня літаб'яднання Ян Чыквін



Прафесар-паэт Алесь Барскі і самавук-празаік Васіль Петручук

У навуковай частцы канферэнцыі выступілі Галіна Тычка і Сяргей Мінскевіч (Мінск), Сяргей Кавалёў і Бэата Сівэк (Люблін) з аналізам творчасці паасобных аўтараў БЛА „Белавежа”. Даклады будуць змешчаны ў чарговым штогодніку „Тэрмапілы”. На аўтарскай сустрэчы аўтараў-белавежцаў і гасцей прагучалі творы Алеся Барскага (Аляксандра Баршчэўскага), Міхася Андрасюка, Сяргея Кавалёва, Сяргея Мінскевіча, Віктара Шведа, Васіля Петручука, Яна Чыквіна, Міры Лукшы, Юрыя Баены, Віктара Стахвюка, Жэні Мартынюк, Янкі Целушэцкага, Лідзіі Маліноўскай, Юстыны Каролька, Віялеты Нікіцюк і Кацярыны Сянкевіч. Чыталіся таксама творы „белавежцаў”, адышоўшых у іншы свет. Святам было таксама пяцідзесяцігоддзе Сяргея Кавалёва, беларусіста, доктара філалагічных навук, прафесара, ці не адзінага ў апошні час драматурга пішучага па-беларуску, і выданне зборніка яго п'ес „Крывіцкі апокрыф” у Бібліятэцы „Белавежы”. Імпрэзу аздобіла выступленне малядых спевакоў з Пачатковай школы імя Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку пад кіраўніцтвам Алы Каменскай ды ансамбля „Знічка” з Гайнаўскага белліцэя, якія выканалі, між іншым, песню „У гушчарах” на словы Наталлі Арсенневай.

Яўген Вапа, сябра „Белавежы”, галоўны рэдактар „Нівы”, старшыня Беларускага саюза ў РП: „Калі гаварыць пра ролю і значэнне беларускіх пісьменнікаў, пра ролю „Белавежы” сёння, у агульнабеларускай прасторы, то сапраўды самым важным фактарам, які вызначае лёс пісьменніка, творца культуры, ёсць свабода. А свабода для чалавека — гэта вялікая адказнасць. Гэтая адказнасць таксама абазначае ягонае змаганне, бо свабода не абазначае, што ты нічога не робіш, свабода — гэта твая актыўная пазіцыя, гэта твая адказнасць за незалежнасць, за мову, за штодзённае жыццё тваіх блізкіх, родных, нацыі. Таму вельмі важным ёсць тое, каб мы, як творцы беларускія ў Польшчы, прыналежныя да беларускай культуры ў цэласці, і да польскай, былі салідарнымі з тымі сябрамі, пісьменнікамі, літаратурнымі крытыкамі, увогуле з людзьмі ў Беларусі, якія з прычыны таго, што маюць свой погляд, маюць сваю свабодную думку, зведваюць рэпрэсіі. У турме знаходзіцца знакаміты літаратурны крытык, эсэіст, былы дырэктар музея імя Максіма Багдановіча Алесь Бяляцкі. Непадалёку пад Пружанамі знаходзіцца ў зняволенні Павел Севярынец — знакаміты эсэіст. Побач у Гародні знаходзіцца Зміцер Дашкевіч, адзіным „няшчасцем” якога ёсць тое, што ён кахае Беларусь і за гэта знаходзіцца ў турме. У зняволенні ёсць чалавек, які не паддаецца ніякім ударам і адначасна піша — Ігар Аліневіч, дзённікі якога проста фантастычныя. Гэта ёсць гонар нацыі, для іх трэба аказваць шацунак і з імі трэба салідарызавацца, за іх трэба заступацца. Гэта наш маральны абавязак. Месяц чэрвень увогуле ёсць вельмі важным для беларускай літаратуры. Вось, 28 чэрвеня маем трагічную гадавіну смерці Янкі Купалы. У чэрвені, 10 гадоў таму, адышоў Васіль Быкаў. Ягоная доўгая дарога дадому была дарогай чалавека, якога прымусілі да эміграцыі, які вярнуўся толькі дзеля таго, каб скласці сваё цела ў роднай зямлі. Развітанне з Васілём Быкавым было самай большай дэманстрацыяй, якую можна было пабачыць апошнімі гадамі.

Калі хочам называцца людзьмі, якія ствараюць беларускую літаратуру, культуру, то на нас спачывае таксама абавязак і памяці, і таксама асабістага, незалежнага падыходу. Патрабуецца гэта ад кожнага стваральніка, не толькі беларускага. Любы стваральнік культуры, любы чалавек, які займае нейкую пазіцыю, мусіць быць незалежным у сваіх поглядах. І літаратура толькі тады ёсць моцная, калі будзе займаць менавіта такія пазіцыі”.

**Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ**





# Пра людзей і свінства

Даўно беларуская вёска не перажывала такой панікі. У цёплае, а часам і гарачае лета вясковыя гаспадары бязлітасна колюць, рэжуць і страляюць сваіх няшчасных парсюкоў і падсвінкаў. Інфармацыйная прастора поўніцца самымі разнастайнымі чуткамі і неверагоднымі гісторыямі. У ціхую Беларусь прыйшла афрыканская чума свіней. Калі прыходзіць такая хвароба жывёлы, іншага выйсця — як толькі знішчаць пагалоўе ў падазроным рэгіёне — няма. Рашэнне непапулярнае, але змушанае. Кажуць, што па раёнах гойсаюць цэлыя эскадроны знішчальнікаў. Толькі які сапраўдны маштаб гэтай эпідэміі? То пра адзін раён Беларусі гаворыцца, то пра іншы...

Стаў я шукаць дакладных звестак на афіцыйных дзяржаўных сайтах. Удалося толькі на старонцы дэпартамента ветэрынарнага і харчовага нагляду Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання Рэспублікі Беларусь знайсці адзіную інфармацыю пра выяўленне віруса афрыканскай чумы ў вёсцы Чапунь Івейскага раёна. Там змешчана таксама памятка „О проведении ограничительных мероприятий по африканской чуме свиней". Як па мне — дык крытычна замала інфармацыі, бо незразумела, які сапраўдны арэал гэтай хваробы ў Беларусі. Нічога таксама ніхто не гаворыць пра галоўнае — ці будзе гаспадарам забітых свіней якая-небудзь кампенсацыя, бо для вясковых людзей — гэта вялікая матэрыяльная страта. Таму і ўзнікае паніка, таму і ладзіць калгаснае насельніцтва „варфаламееўскія ночы" для сваіх чатырохногіх гадаванцаў.

За што мы любілі гарбачоўскую перабудову? За галоснасць. У той час хапала бесталкоўшчыны, кампанейшчыны і нават хаосу. Але была і праўдзівая інфармацыя, за права на якую столькі стагоддзяў змагалася ўсё чалавецтва. Працэс гэты быў няпросты і хваравіты. Савецкая наменклатура хавала галоўную праўду, так, прыкладам, выганялі людзей на першамайскія дэманстрацыі пад радыеактыўныя чарнобыльскія ападкі. Звычкі гэтай савецкай наменклатуры паспяхова пераняла ўжо новая беларуская наменклатурная каста. У нас жа ўсё замоўчваюць — і рэальныя лічбы на выбарах, і эпідэмію грыпу, і трагічныя здарэнні. Вось і цяпер няма нармальнай інфармацыі пра гэтую афрыканскую чуму.

А вось старшыню партыі верных ленінцаў-камуністаў, які адначасна займае пасаду намесніка старшыні мінскага гарвыканкама, Ігару Карпенку падклалі сапраўдную „свінню". Выйшаў высокі чыноўнік і носьбіт ідэі светлай будучыні на сцэну павіншаваць чарговую абраную міс беларускай сталіцы. Як належыць, уручыў кветкі, пацалаваў ручку прыгажуні, словам нiякіх намёкаў на сексуальнае дамагальніцтва. Але гэты праклятыя інтэрнэт сапсуе біяграфію каму хочаш. З усіх шчылін павыцягвалі пікантныя фотаздымкі як новаабранай мінскай „міскі", так і іншых прэтэндэнтак на карону каралевы прыгажосці. Выявілася, што многія з іх працуюць начамі ў досыць сумнеўных клубах для такіх жа сумнеўных мужчынскіх забаў і не надта пільнуюць свае цноты. І цалуюць ім там зусім не ручкі, а, пардон, голыя цыцкі, абляпаныя смятанай. Ведаў бы бедны Ігар Карпенка, мог бы зусім па-іншаму скарыстацца сітуацыяй. А можа гэта быў загадзя сплянаваны пазітыўны піяр, які прыдумаў яшчэ незабыўны містыфікатар — лорд Бэл? Можа гэта і ёсць нашыя галоўныя брэнд, трэнд, ноў-хаў і таму падобная халера? Якраз перад чэмпіянатам свету па хакеі, што пройдзе ў наступным годзе ў Беларусі. Уяўляеце, лепшым хакеістам кожнай сустрэчы дазваляецца пацалаваць у грудзі міс Мінска! Ды яны лёд будуць грызці. І на трыбуны не трэба будзе нікога заганяць сілай. Народ у нас відовішчы любіць. Вось і ў Бабруйску людзі паперліся на нейкае шоў атрада міліцыі асаблівага прызначэння. А там мікрааўтобус і ўрэзаўся ў натоўп. Дзякуй Богу, што абышлося без ахвяр, толькі траўмамі і спалохам скончылася. У сацыяльных сетках пішуць, што потым людзям на месцы тлумачылі: нічога надзвычайнага не здарылася, маўляў, так і было задумана. Няма чумы страшнейшай за хлусню...

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Жыццё, аднак, покер



Беларусь з'яўляецца адзінай у Еўропе краінай, у якой суды прыгаворваюць да вышэйшай меры пакарання і ў якой пакаранне смерцю выконваецца. Самым агідным чынам гэта супадае з метадамі НКВД, жывёльнымі пакараннямі ў Катыні, Медным або Курапатах, стрэлам у патыліцу. Кат, выконваючы пакаранне, не можа не пачуць хуткага дыхання прававарушальніка, не адчуць цяпла яго цела, а затым жмутоў мозгу і крыві на далоні, якая трымае ў руках пісталет. Магчыма, частка крывавай матэрыі аплёўвае яго твар. Плюе, не апырсквае. Бо якім трэба быць чалавекам, каб згадзіцца на такую ролю? Аплёўвае таксама дзяржаву, якая з'яўляецца захавальнікам у сваіх рэсурсах функцыянераў чалавечых істот, пазбаўленых высокіх пачуццяў, суперажывання і нейкага сумлення, дбаючы адначасова аб іх добры настрой, забеспячэнне фінансавага дабрабыту і задаволенасць. На мой погляд, чалавека з такімі схільнасцямі неабходна ізаляваць ад грамадства. Ці ў вар'яцкім доме? А разам з ім такую дзяржаву. Але ці толькі дзяржаву? На рэферэндуме 1996 года за адмену смяротнага пакарання выказалася толькі 17,9 працэнта беларусаў, супраць было 80,44 адсоткаў. Гэта абазначае, што пераважная большасць з іх пагадзілася з тым, што ў роўнай ступені пазбавіць жыцця: псіхапатычных забойцаў, гвалтаўнікоў, эмацыйна засмучаных юнакоў і атупелых пад уплывам гармаНальнай буры паненак, але і ахвяр магчымых судовых памылак і палітычных змоў — стрэлам у патыліцу. І амаль адразу. У абыход працяглых працэдур апеляцыйных працэсаў, на якія мае права нават найбуйнейшы вырадак. Без усякай літасці. Ужо спрэчны смяротны прысуд і яго выкананне крадком падазраваных у здзяйсненні выбуху ў мінскім метро — Канавалава і Кавалёва — паказаў, што беларуская сістэма правасуддзя з'яўляецца прымітыўным гільяцінам па ўзоры часоў якабінскага тэрору ў дзевятнаццатым стагоддзі ў Францыі. Тады мокрае клацанне яе ападаючага тапара сустрэлася з самым высокімі апладысментамі паўп'янага натоўпу. Аднак ніякія пункты закону, ні адзін звод законаў, і, нарэшце, юрысдыкцыйны гуманітарызм не былі яго часткамі, але цынізм і крывадушнасць, баязлівасць і адсутнасць павагі для чалавечых каштоўнасцей — суддзяў і пракурораў якабінскага вар'яцтва, яго рэвалюцыйных ідэолагаў і іх бяздумных памагатых.

Аляксандр Лукашэнка ў справе пастулаванага беларускай апазіцыяй мараторыя на смяротнае пакаранне дыпламатычна маўчыць. Існуе прычына, у рэшце рэшт. У час нядаўняй размовы праведзенай журналістам „Известия в Украине" нечакана паказаў сваё стаўленне да гарантаванай канстытуцыяй судовай улады. „Такую мы пабудавалі сістэму ў Беларусі ААЦ (Аналіз і аператыўны цэнтр, які кіруе спецслужбамі — заўвага аўтара), якую кантралюе мой старэйшы сын. У адпаведнасці з законам падлягаюць яму начальнікі спецслужб. Сын заўзятар бацькі, пракурор разумее, што ён падпарадкаваны, і суддзі таксама разумеюць, што яны знаходзяцца ў падначаленні".

На маю думку, закон у Беларусі занадта падначалены. І наогул уся гэтая несправядлівая гульня паміж органамі ўлады і грамадзянамі падпарадкавана адной мэце — падтрыманню дыктатарскага праўлення Лукашэнкі. Або ўсёй дынастыі Лукашэнкаў. Смяротнае пакаранне з'яўляецца магутным козырам. Такім чынам, як вопытны гулец у покер, Лукашэнка ведае, калі трэба яго выцягнуць. Толькі ці беларусы разумеюць, што такім чынам яны сталі падпарадкаванымі прыхамацям дыктатара? Калі не, ужо час, каб яны зразумелі. Калі гэта так, і калі не пратэстуюць, дык няхай ім так і будзе.

Тым не менш, у знак пратэсту супраць смяротнага пакарання моцна выказаўся Філарэт, першаіерарх Беларускай праваслаўнай царквы, мітрапаліт мінскі і слуцкі, які лічыць гэта грахом забойства. Грэх, які абвінавачвае пароўну, так усіх грамадзянвыбаршчыкаў на рэферэндуме 1996 года ў карысць захавання смяротнага пакарання, як іх прадстаўнікоў у парламенце, а таксама самога прэзідэнта, які не згодны на яго бестэрміновае прыпыненне.

— Дзяржава, караючы сваіх грамадзян смерцю, кожны раз распінае Хрыста на крыжы, — пісаў Філарэт у пасланні да ўдзельнікаў семінара „Рэлігія і смяротнае пакаранне". Дарэчы, ён быў праведзены нядаўна. У Мінску. Побач з прэзідэнцкім палацам. На жаль, ніхто з акружэння прэзідэнта ў ім не ўдзельнічаў. Не лічачы... спецыяльных агентаў. Але яны не прынялі ўдзелу ў спрэчках. Яны запісвалі галасы іншых.

**Міраслаў ГРЫКА**



Вачыма еўрапейца

# Горад рыхтуе праграму

У той дзень, у які беластоцкі суд вырашыў часова арыштаваць 23-гадовага мужчыну за збіццё сямігадовага чачэнца ды ў дзень, калі арыштаваў часова на два месяцы жыхара Беластока, падазраванага ў публічнай (шляхам размяшчэння ў інтэрнэце відэароліка) зняваге па прычыне нацыянальнасці грамадзяніна Індыі, віцэ-прэзідэнт горада Беластока Рэната Пшыгодзкая прыняла ўдзел у традыцыйнай штотыднёвай нарадзе гарадскіх начальнікаў з журналістамі. Паведаміла, а на самой справе прыгадала, што пры прэзідэнцтве горада была сфарміравана група па супрацьдзеянні ксенафобіі і расізму, якую яна і ўзначаліла. Адказваючы мне на пытанне, хто ўваходзіць у склад групы (тут я спадзяваўся пачуць, што, напрыклад, таксама прадстаўнікі нацыянальных і этнічных меншасцей Беластока і бежанцаў), пералічыла кіраўнікоў аддзелаў Гарадской управы, паліцыі і муніцыпальнай паліцыі. Віцэ-прэзідэнт растлумачыла:

— Група мае падрыхтаваць шматгадовую праграму, у якой будуць вызначаны задачы датычныя прафілактыкі і падрыхтаваны канкрэтныя дзеянні, звязаныя з гэтымі з'явамі (ксенафобія, расізм і г.д. — М. Х.). Каманда таксама пачне пошук сродкаў на іх рэалізацыю. Мы не хочам, каб гэтая праграма трапіла толькі да пераканаНЫХ.

На працягу месяца мае быць праведзена апытанне сярод беластачан, якое — так як сказала віцэ-прэзідэнт Пшыгодзкая — вызначыць узровень талерантнасці ў паасобных сацыяльных групах. Сама праграма супрацьдзеяння ксенафобіі і агрэсіі на рэлігійнай і этнічнай глебе восенню мае трапіць у парадак дня Гарадской рады.

На прэс-канферэнцыі таксама было павядомлена, што польскае пасольства ў Тбілісі запрасіла працаўнікоў беластоцкага Цэнтра імя Людвіка Заменгофа для ажыццяўлення ў трох тамашніх гарадах абучэнняў, прысвечаных талерантнасці і павазе для разнастайнасці. Гэта адбылося таму, мабыць, што супрацоўнікі пасольства знаходзяцца пад уражаннем ад пачатай Цэнтрам у 2011 годзе адукацыйнай праграмы «Рэлігіі Падляшша», рэалізаванай у выглядзе мультымедыйных семінараў, накіраваных у першую чаргу на дзяцей і маладых людзей. У верасні пачнецца іншы праект Цэнтра, звязаны з адукацыяй датычнай да павагі да «іншых»: «Талерантнасць — о'кей». Гэта таксама будуць семінары. Іх мэта — «садзейнічанне пазітыўнаму стаўленню да разнастайнасці — нацыянальнай, культурнай, ідэалагічнай сярод гімназічнай моладзі». Віцэ-прэзідэнт Пшыгодзкая пры нагодзе гэтай інфармацыі сказала:

— Такіх дзеянняў (супрацьдзейнічаючых ксенафобіі, расізму і да г.п. — М. Х.) у Беластоку вельмі, вельмі шмат.

Я не кажу, што гэта не так. Аднак, як паказвае практыка, відавочна, яны не вельмі эфектыўныя (я маю на ўвазе і апошні канцэрт дзеля талерантнасці). Не хапае — на мой погляд — катэгарычнасці ў негатыўнай ацэнцы складўшайся сітуацыі прэзідэнта горада Тадэвуша Трускаляскага, такой, на якую пасля парушэння «нарадоўцамі» лекцыі выдатнага філосафа і сацыёлага прафесара Зыгмунта Баўмана адважыўся мэр Вроцлава Рафал Дуткевіч, які адгукнуўся адразу ж пасля падзеі:

— Я не пацярплю ў маім горадзе нацыяналістычнага зброду.

Варта таксама, каб прэзідэнт Трускаляскі і яго прадстаўнікі памяталі словы, сказаныя ў Беластоку адным з прадстаўнікоў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый:

— З трывогай назіраем за нядаўнімі падзеямі, якія мелі месца ў Беластоку. Мы лічым, што гэта не былі інцыдэнты, а здарэнні сур'ёзнага крымінальнага характару. Неабходна зрабіць усё, каб вінаватых былі затрыманы і адпаведным чынам пакараны.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Беларускія песні і мясцовыя традыцыі ў агракватэры «Подрэчаны»



Галена і Юры Анопюкі (злева) атрымалі з рук войта Юрыя Васілюка дыплом прызнання за працу ў карысць мясцовага грамадства




Чыжоўскія пенсіянеркі цікава запрэзентаваліся перад публікай

Юры Анопюк разам з жонкай Галенай вядуць на бацькаўскім панадворку ў Падрэчанах агратурыстычную гаспадарку з улікам нашых традыцый і беларускай культуры. У клуні сарганізавалі яны экспазіцыю земляробчых прылад працы. Турысты адпачываюць у іх агратурыстычнай кватэры таксама з-за яе распалажэння. Драўляны дом і гаспадарчыя будынкі, што знаходзяцца побач дарогі з Падрэчанаў у Локніцу, акружаны лесам, а непадалёк ад прыгожага панадворка цячэ рэчка. Сельскагаспадарчыя экспанаты цікавыя таксама школьнай моладзі. Войт Чыжоўскай гміны Юры Васілюк агратурыстычную кватэру спадарства Анопюкаў, якую яны назвалі пасвойму «Подрэчаны», паказвае госцям, якія здзяйсняюць афіцыйныя візіты ў Чыжы. Гайнаўскаму белмузею запрапанаваў ён наладзіць беларускі фэст менавіта на панадворку гэтай агракватэры, бо тут зручнае месца для выступленняў вакальных калектываў і для танцаў. Жыхары Чыжоўскай гміны і наваколля з'ехаліся 16 чэрвеня на панадворак спадарства Анопюкаў, каб паслухаць беларускія песні ў выкананні вядомых гуртоў у рамках фэсту «І тут жывуць людзі», які наладзіў Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы, у супрацоўніцтве з чыжоўскім войтам і мясцовым асяродкам культуры. Вечарам была наладжана вясковая забава. Галена і Юры Анопюкі атрымалі з рук войта Юрыя Васілюка дыплом прызнання за дзейнасць у карысць грамадства Чыжоўскай гміны і юбілейны альбом, прымеркаваны да 500-годдзя Падляшскага ваяводства, а ад сабранай публікі — бурныя воплескі за гасцiннасць.

Калі пасярэдзіне шырокага хутаранскага панадворка (такія рабіліся, калі гаспадар рашаўся жыць па-за вёскай, на выдзеленым яму ўчастку зямлі) расставілі вясковыя лавы, а побач клуні паставілі палатку, пад якой мелі выступаць калектывы, запанавала сямейная атмасфера. Агратурыстычная кватэра, прыхаваная ў лесе, прымыкае да мяжы паміж Гайнаўскім і Бельскім паветамі.

— Мы вакол нашага дома пасадзілі некалькі гектараў лесу, каб турысты маглі хадзіць па ім свабодна. Далей распаложаны дзяржаўны лес, — скажа мне пазней Галена Анопюк.

Калі распачаўся беларускі фэст з цыкла «І тут жывуць людзі», прамаўлялі дырэктар белмузея Тамаш Ціханюк, войт Юры Васілюк і дырэктар Гміннага асяродка культуры Юры Якімюк, які не пакінуў роднага сяла і ўсталяваўся ў Падрэчанах на пастаяннае жыхарства. Выступілі добравядомыя калектывы «Гай» і «Dekada Band» з Беластока, «Арт. Пронар» з Нарвы і «Метро» з Гайнаўкі. Апошні калектыў у канцы мерапрыемства падыгрываў да танцаў. Паўліна Паўлючук-Коська і Марыёля Герман умела вялі мерапрыемства і па імені і прозвішчы называлі жыхароў Падрэчан і іншых ангажаваных у грамадскую дзейнасць жыхароў Чыжоўскай гміны, якія ўдзельнічалі ў беларускім мерапрыемстве.

— Наша вёска пусцее. Добра, што сёння сабралася ў нас так многа людзей. У мінулым ладзіліся ў нас вясковыя забавы, але культурных музычных мерапрыемстваў у нас раней не было. Таму так цікавая нам сённяшняя імпрэза, — заявілі старэйшыя мужчыны.

З асаблівай ангажаванасцю запрэзентаваліся мясцовыя вакальныя калектывы: калектыў гміннага гуртка Саюза пенсіянераў і інвалідаў «Чыжавяне», у якім выступіла старшыня Рады гміны Крысцінія Гаўрылюк, і «Збучанкі». Сола прыгожа заспявала вядомая чыжоўскай публіцы Наталля Семянюк з Падрэчан. Чыжоўскія пенсіянеркі нават пусціліся ў танцы на таку ў клуні пад музыку выступаючага калектыву. У жанчын з пенсіянерскага гурту — свае цяжкасці і жыццёвыя складанасці, але збіраюцца яны і выступаюць з роднымі песнямі, між іншым таму, каб забыць пра свае праблемы. Дзеля гэтага прыйшлі павесяліцца і жыхары Падрэчан. Гадоў пяць таму асфальтавалі ім даязную дарогу ў Чыжы. Частка адрамантаваных хат шыкарна прэзентуецца на фоне прыгожай прыроды. Калі маладыя недалёка ад дому знойдуць працу, можа варта было б ім застацца на бацькаўшчыне на пастаяннае жыхарства?

— Дарогу ў Падрэчаны асфальтавалі мы ў 2008 годзе. Кожны год рамантуем мясцовыя гмінныя і павятовыя дарогі. Апошнія, канешне, у супрацоўніцтве з Павятовым старэствам у Гайнаўцы. У гэтым годзе плануем распачаць рамонт галоўнай дарогі ў Чыжах, рамантаваць дарогі з Падрэчан у Лянева, з Кленік у Сапава і з Курашава ў Новае Корніна. Канчаем будову кацельні ў школе ў Чыжах, хочам добраўпарадкаваць пляц каля святліцы і гміннай установы ў Чыжах, а таксама рэалізаваць меншыя задумы, па меры нашых фінансавых магчымасцей, — сказаў войт Юры Васілюк.

На фэст прыбылі таксама жыхары суседняй Локніцы. Там некалькі асоб займаецца гадоўляй кароў, але так, як і ў Падрэчанах, выдатную большасць пастаянных жыхароў састаўляюць пенсіянеры.

— З гадоўлі свіней я ў мінулым сабраў грошы і збудаваў у Гайнаўцы дом. Цяпер я ўжо не змог бы хаты паставіць, — сказаў выхадзец з Локніцы, які наведаў беларускае мерапрыемства.



Бацькі пабудавалі дом Юрыю Анопюку таксама ў Гайнаўцы, якая была буйным цэнтрам дрэваапрацоўчай прамысловасці і прыцягвала на працу людзей. Пасля смерці бацькі мама спадара Юрыя пераехала на пастаяннае жыхарства да свайго сына ў Гайнаўку.

— Я тут, у Падрэчанах, сорак гадоў жыла. Зараз жыву ў гаспадарчым будынку побач дома, які мы збудавалі ў Гайнаўцы сыну. Пасля смерці мужа яшчэ год я тут жыла. Летам добра было, але зімой цяжка тут жыць адзінокаму. Калі я пераехала ў Гайнаўку, сын пачаў у Падрэчанах арганізаваць агратурыстычную дзейнасць. Панадворак не зарастае, жывуць тут турысты, — расказала Ніна Анопюк.

— Мы пачысцілі і падрыхтавалі да паказу даўнія земляробчыя прылады працы і вырабы. Хочам захаваць іх для будучых пакаленняў. Цяпер паказваем іх турыстам, якія ў нас адпачываюць. Прыязджаюць да нас людзі з усёй Польшчы — з Варшавы, Гданьска, Познані, Сахачэва, ці Вейгерова, найчасцей тыя, хто любіць адпачываць у цішыні і ва ўмовах, у якіх жылі нашыя продкі. Атракцыёнам для гасцей з'яўляецца распальванне печак зімой і абаграванне хаты дровамі. Госці аддаюць перавагу натуральнаму вясковаму харчаванню, таму мы прапануем ім сваё сала, мяса ці вэнджаны ў нас сыр. Побач з нашым панадворкам расце лес, непадалёк плыве рэчка, якая пасля ліўняў нават залівае наш агарод, — расказалі Галена і Юры Анопюкі. — Мы падтрымліваем мясцовыя традыцыі і беларускую культуру, таму станоўча адгукнуліся на прапанову наладзіць беларускі фэст у нашай агракватэры.

У час фэсту відаць было, што панадворак прыстасаваны да прыёму гасцей. Дзеткі маглі пагойдацца на пляцоўцы для гульняў. Бабулі сваім унукам паказвалі ў клуні кросны і іншыя ткацкія прылады, малацілку, веялкі, воз, санкі і шмат іншых земляробчых экспанатаў.

— Тут вельмі файнае месца як для турыстаў, так і на пастаяннае жыхарства. Асабліва захапляюць прырода і чыстае паветра, — сказала Кацярына Ціханюк са Збуча.

Галена і Юры Анопюкі надалей будуць разгортваць агратурыстычную дзейнасць, збіраць земляробчыя экспанаты і прэзентаваць іх наведвальнікам. Запрашаюць яны на адпачынак сярод прыгожай прыроды.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

## Найлепшыя скульптары

25 чэрвеня гэтага года ў самаўрадавай святліцы ў Старым Ляўкове (Гайнаўскі павет) арганізавалі VII Адкрыты скульптурны конкурс. Скульптуры выконваліся з гліны, якой поўна ў ляўкоўскім наваколлі. У конкурсе ўдзельнічалі 30 чалавек з Ляўкова, Лешукоў, Нараўкі і Гайнаўкі: дзеці, моладзь і дарослыя. Чаго толькі скульптары-аматары не прыдумалі, аднак найбольш усялякіх звяроў і звяркоў, постацей людзей, але былі таксама паравоз і чыгунка.

І так, у катэгорыі дзяцей дашкольнага ўзросту першае раўнапраўнае месца занялі Алівія Харкевіч і Актавіян Лясота.

У катэгорыі вучняў I-III класаў пачатковай школы першае месца заняў Рыгор Саковіч, другое — Якуб Кардаш.

Сярод вучняў IV-VI класаў пачатковай школы найлепш сябе адрэкамендавалі Іаанна Рута і Караліна Каравай (занялі яны раўнапраўныя першыя месца), Наталля Варсіцкая, Караль Кольп, Вікторыя Патонец і Юлія Лясота (раўнапраўнае другое месца) ды Агата Саковіч, Караліна Барэчка, Янка Навіцкі, Габрыся Храбал, Галена Карбоўская, Магда Аніскевіч і Эрнест Міраповіч (раўнапраўнае трэцяе месца).

У катэгорыі гімназістаў тры першыя раўнапраўныя месцы занялі Эва Кунцэвіч, Дар'я Красько і Эмануэля Міраповіч, два раўнапраўныя другія месцы занялі Кася Забароўская і Дыяна Леанюк ды два раўнапраўныя трэція месцы — Караліна Навіцкая і Вольга Грыгарук.

У катэгорыі ліцэістаў перамагла Клаўдзія Лясота (першае месца).

У групе дарослых асоб журы прызначыла ўзнагароды Камілю Анішчуку і Віялеце Новак (I месца), Барбары Лукшы і Іаанне Зубрыцкай (II) ды Яўгеніі Артэмюк (III).

Удзельнікі былі задаволены дыпломамі і ўзнагародамі, пра якія паклапаціліся дырэктарка Гміннага асяродка культуры ў Нараўцы Анна Стульгіс і бібліятэкарка са Старога Ляўкова Аліна Барташук. У падрыхтоўцы і ў ходзе конкурсу шмат працавалі Вольга Максімюк (інструктар мастацтва) і Галена Рэент (кіраўнічка святліцы). Як і ў мінулыя гады, на мерапрыемства быў запрошаны супрацоўнік „Нівы" Янка Целушэцкі.

**(яц)**

## Куды смецце?

З 1 ліпеня абавязвае новы закон аб адходах вытворчасці і спажывання. На вясковым сходзе ў Кузаве, які праходзіў 17 траўня, гмінныя чыноўнікі абяцалі, што не будзе закалоту пасля ўступлення ў сілу новага закону. А такі ўжо ўзнік, калі гміна забрала публічныя сметніцы ў чэрвені і такое ж 21 чэрвеня ўчыніла Гайнаўскае прадпрыемства камунальных паслуг (ГПКП) з кантэйнерамі ад прыватных гаспадароў. Затым, куды дзяваць смецце? — задумваюцца жыхары Чаромхаўскай гміны. З размовы з намеснікам войта Ірынеем Леанюком я даведаўся, што таргі на вывазку адходаў (удзельнічалі дзве фірмы: „Аства" з Беластока і ГПКП) выйграла Гайнаўскае прадпрыемства камунальных паслуг. Мой суразмоўца сказаў, што ў першым тыдні ліпеня будуць заключацца дамовы з паасобнымі гаспадарамі, а прадпрыемства забяспечыць карыстальнікаў неабходнымі мяшкамі і кантэйнерамі. Такая была дамова. Як будзе на практыцы, пакажа час. Мне штосьці здаецца, што без закалоту не абыдзецца...

**(ус)**



## Юбілейная „Купальночка"

**Дзесяты раз у падгарадоцкіх Залуках гулялі на свяце вады, агню, сонца і любові — Купальночцы. Рэй, як і ў мінулым годзе, вёў маладзёжны ансамбль беларускай народнай песні „Калінка", якая раней на залучанскай прышкольнай сцэне адзначыла саё дзесяцігоддзе. На гэты раз дзяўчаты з гэтай групы прадставілі песні са свайго нядаўна апублікаванага першага альбома „Душа спявае".**

Традыцыйна, канцэрт, а затым гулянне да ночы, некаторыя групы інаўгуравалі спевам гімна ночы купалы. Юры Хмялеўскі, дырэктар Гміннага цэнтра культуры ў Гарадку (ГЦК і Згуртаванне „Залукі над Супраслю" — арганізатары гэтага штогадовага мерапрыемства) вітаў удзельнікаў забавы:

— Гэта ўжо традыцыя, што мы сустракаемся ў гэтым чароўным і маляўнічым месцы, тут, у Залуках, калі ночы самыя кароткія і дні самыя доўгія ў годзе. Адзначаем невялікую, дзесятую гадавіну нашай „Купалінкі", „Купальночкі". Гэта чароўнае свята, якое мае доўгі радавод. Кажуць, што ў ноч адбываюцца цуды праз папараць-кветку, якая ў гэтую ноч зацвітае. Хто ў гэтую ноч знойдзе папараць-кветку, можа выйграць мільён, а то і больш, у лато.

Пазней, у інтэрв'ю „Ніве" і Радыё Рацыя, Юры Хмялеўскі нагадаў, што задума арганізаваць імпрэзу прыйшла ў галаву „Каліне":

— Яны падумалі: нашто ім ездзіць на „Ноч Купалы" ў далёкую Белавежу, дзе такі фэст ужо адбываўся. Свой фэст назвалі „Купальночкай", каб адрозніваўца ад іншых падобных святаў. На сённяшні дзень гэта адзіны такі фэст у Беластоцкім павеце. Кожны год прыязджаюць да нас госці і з блізкай адлегласці, і з далёкай. Кожны год з'яўляецца штораз больш гледачоў. Магічны дух па-ранейшаму кружыць дзесьці ў наваколным лесе. Гэта таксама магчымасць шырока прадставіць беларускія песні і культуру, якая пераважае ў прэзентацыях на гэтай сцэне.

— А зараз у гэты слаўны вечар святкуйма стары звычай, — абвяшчалі выступленне першага калектыву „Каліны" дзяўчаты з маладзейшай „Калінкі" пад кіраўніцтвам Віктара Леанкевіча. Акрамя гарадоцкіх калектываў у гэтым годзе выступілі каманды з Гайнаўкі (Студыя песні Гайнаўскага дома культуры), Каракуль („Арабіна") і Студзянак Васількаўскай гміны („Мальвянкі"). З Міхалова прыехалі і паднялі на ногі знакамітыя „Прымакі", а пазней у прыцемках да танца падыгрываў гайнаўскі гурт „Метро". Можна было купіць новы і раней набыць на аўкцыёне дыск залучанскай, у сем асоб — „Калінкі". Яго выдаў ГЦК, а субсідыявала Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі. Адкрывае альбом песня „Калінка белая" з народнай музыкай і на словы ўдзельніц групы. Удзельніца гурту Агнешка Паплаўская сказала нам у перапынку паміж выступамі:

— На нашым альбоме шаснаццаць песень з нашага сяла і яго ваколіц. Ёсць таксама такія, якія спяваюць у Беларусі, а таксама такія, да якіх напісалі мы словы і зрабілі аранжыроўку. Доўгі час чакалі мы свайго дыска, таму што ўклалі ў яго шмат працы. Адрозвівае нас ад старэйшай „Каліны" тое, што яны спяваюць пад акампанемент акардэона, а мы аранжыруем песні і спрабуем зладзіць на сцэне танец. На першай „Купальночцы" мне было дванаццаць гадоў. Выступаем на „Купальночцы" штогод, і вельмі рады, што кожны год прыязджае на наш фэст усё больш і больш людзей.

— У Белавежы святкуюць Ноч Купалы, і ў іншых мясцовасцях на Беласточчыне, чаму мы не мелі б святкаваць, — нагадаў нам пра ўзнікненне падзеі ў Залуках Пётр Сакалоўскі. — Першая была вельмі сціплая. У апошнія гады ўсё больш і больш развіваецца. А ўвечары над рэчку на вогнішча і пусканне вянкоў так шмат людзей прыходзіць, што аж мне цікава, адкуль іх так многа.

Сярод гледачоў сустрэлі мы Стэфана Галёнку, якому пад пяцьдзесят. Ён спецыяльна прыехаў з Беластока. Сам ён родам з Бельшчыны:

— Столькі тут вельмі класных груп. Такія звычаі, калісь паганскія, сталі вельмі папулярнымі ў апошнія некалькі гадоў, хоць, як назіраю, па вёсках усё больш і больш людзей бярэ ўдзел у царкоўных святах. Але гэта добра, што людзі таксама зацікаўлены ў звычаях нашых продкаў.

— Кожны год мы прыходзім на „Купальночку". Як толькі будзе добрае надвор'е, заўсёды скачам па вянкі. Тут найлепшая імпрэза, — хвалілі мерапрыемства залучанскія падлеткі Данель і Матэвуш.

— Я па вянок не скачу, у мяне ёсць жонка. Калі я быў маладым, тут такой імпрэзы не было. На самой справе, сёння маладыя шукаюць жонак больш на дыскатэках, а не ловячы вянкі, — пераконваў адзін мясовы саракагодак, які прыйшоў на забаву са сваімі дзецьмі.

На адным з латкоў, між іншым Марыя Панасэвіч-Дубіцкая, настаўніца беларускай мовы са школы ў Залуках, заахвочвала прыняць удзел у латарэі, купляць прысмакі і часопіс „Wieści Szkolne". Грошы збіралі на школьную мультымедыйную дошку. Якраз перад змярканнем урачыстае шэсце на чале з калектывамі адправілася на раку Супрасль.




**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**





# Свята беларускай культуры пад тэатрам



У Беластоку 23 чэрвеня адбылося дваццаць восьмае Свята беларускай культуры. На сцэне перад Драмтэатрам імя Аляксандра Вянгеркі паказалі сваё песеннае і танцавальнае майстэрства салісты і калектывы з Падляшша і госці з Беларусі. Як адзначыў старшыня Беларускага грамадска-культурнага таварыства Ян Сычэўскі, арганізатар імпрэзы, гэтае мерапрыемства з'яўляецца магчымасцю наблізіць беларускую культуру да жыхароў Беластока. У гэты дзень па ўсім Беластоку адбываліся імпрэзы, звязаныя з Днямі Беластока (таму гэтае месца было запрапанавана на свята арганізатарам), і пад канец канцэрта сотні іншых слухачоў набрыло на расспяваны беларускі пляц. Не перапужаў аматараў беларускай песні ні праліўны дождж амаль да пачатаку мерапрыемства, залітыя крэслы, пастаянная імжаўка і ўздымаюныя ветрам туманы пялёсткаў язміну. Свята ўдалося. Таксама дзякуючы падтрымцы міністра адміністрацыі і лічбавізацыі, Маршалкоўскай управы Падляшскага ваяводства, горада Беластока, Культурнага цэнтра Беларусі ў Польшчы. Фэст, акалены нашымі гімнамі «Мой Беластоцкі край» і фінальным «Люблю наш край», быў сапраўдным другім фестывалем беларускай песні (больш за 350 удзельнікаў). Доўжыўся ён больш за чатыры гадзіны, хаця кожны выканаўца спяваў толькі адну песню. Яшчэ каля дваццатай гадзіны пляц не пусцеў. Гледачы набывалі таксама кружэлкі ансамбляў, рукадзелле беластоцкіх і гродзенскіх майстроў, кнігі з подпісамі аўтараў з літаб'яднання «Белавежа» і літаратуру, прапанаваную Цэнтрам славянскай культуры Янкі Заброцкага з Варшавы.

— Калі ў нас дзейнічаюць абсалютна добраахвотна і бескарысліва больш за 60 аматарскіх калектываў, калі ў прадшколлях і ў школах усіх узроўняў маем вялікую зацікаўленасць нашай роднай песняй, нашай культурай, нашай нацыянальнай тоеснасцю, то гэта вельмі цешыць, — сказаў Ян Сычэўскі. — Такое свята з'яўляецца натуральнай патрэбай усіх выканаўцаў і ўсёй публікі.

Канцэрт пачаў дзіцячы калектыў «Вясёлка» з Прадшколля № 14 у Беластоку. Уперамешку выступалі маладыя і сталыя пераможцы спявацкіх конкурсаў беларускай песні, са школ і культурынх устаноў: дуэт Кацярыны Дружбы ды Ізы Карчэўскай з Гайнаўскага дома культуры, калектыў «Капрыз» з Копмлексу школ з беларускай мовай у Бельску-Падляшскім, дуэт Магдаліна Андраюк і Паўліна Баніфацюк з Вясковага дома культуры ў Рыбалах, калектыў «Малое ГДК» з Гайнаўскага дома культуры, эстрадныя «Дэкада Банд», «Сказка» ды «Ас», «Лайланд» і «Гай» ды «Калінка» з Беластока, «Зніч-ка» з Гайнаўскага белліцэя, Студыя эстраднай песні з Гайнаўкі, «Прымакі» з Міхалова, фальклорныя «Рэчанька» з Козлікаў, «Жаваранкі» з Махнатага, «Васілёчкі» з Бельска, «Расспяваны Гарадок», «Чыжавяне», настаўніцкі «Світанак» з Беластока, хары — «Рэха Пушчы» з Гайнаўкі, «Каласкі» і «Крыніца» з Беластока, «Васілёчкі» і хор Дома праваслаўнай культуры з Бельска-Падляшскага. Выступленні спевакоў перапынялі танцы «Гарадзенскіх карунак».

Народны ансамбль танца «Гарадзенскія карункі» створаны ў 1998 годзе на базе цыклавой камісіі харэаграфіі Гродзенскага дзяржаўнага коледжа мастацтваў. У рэпертуары ансамбля прадстаўлены многія жанры харэаграфічнага мастацтва: вялікая праграма беларускіх танцаў — традыцыйныя, сцэнічныя, створаныя на фальклорным матэрыяле Прынёманскага краю, разнастайная і шматгранная праграма танцаў народаў свету. У рэпертуары ансамбля ёсць гісторыка-бытавыя, спартыўна-бальныя танцы, харэаграфічныя кампазіцыі кірунку мадэрн, эстрадныя танцы. Ансамбль неаднаразова прадстаўляў нацыянальную беларускую культуру за мяжой: у Аўстрыі, Балгарыі, Расіі, Польшчы, Латвіі і іншых краінах.

Узрадавала выступленне фольк-групы «Купалінка» з Белдзяржфілармоніі ў Мінску (мастацкі кіраўнік Алена Цялькова). «Купалінка» пачала сваю творчую дзейнасць у 1966 годзе як жаночы вакальны квартэт, паэтычнае імя якому дала вядомая беларуская народная песня «Купалінка». Стваральнікам і духоўным бацькам калектыву стаў народны артыст Генадзь Цітовіч. «Купалінка» — прызнаны майстар вакальнай культуры, лаўрэат усесаюзных і міжнародных конкурсаў і фестываляў, уладальнік залатых медалёў. Мастацкі кіраўнік калектыву народная артыстка Рэспублікі Беларусь Алена Цялькова, у пошуку новых творчых магчымасцей, прынцыпова змяніла аблічча «Купалінкі», узяўшы за аснову больш свабодную форму выканання, спалучаючы змешаныя спевы з інструментальным суправаджэннем. Сёння «Купалінка» — калектыў запатрабаваны ў краіне і за яе межамі. Ён бліскуча прадстаўляе і ўяўляе нацыянальнае мастацтва з тысячамі канцэртаў па Беларусі, на дзяржаўных і міжнародных мерапрыемствах у Расіі, краінах Прыбалтыкі, Канадзе, Люксембургу, Германіі, Бельгіі, Францыі, Югаславіі, Італіі, Сірыі, Карэі, Фінляндыі, Вялікабрытаніі, Швейцарыі, Балгарыі, Аўстрыі, Індыі, Японіі, Польшчы, Даніі, амаль па ўсім свеце. У рэпертуары гурту народныя песні і танцы ўсіх рэгіёнаў Беларусі. З дапамогай творчасці «Купалінка» захоўвае, адраджае і папулярызуе традыцыі, звычаі беларускага народа і сваім мастацтвам спрыяе духоўнаму адраджэнню, узнёслым адносінам да ўсяго роднага.

Пакінуў вялікае ўражанне сярод міжнацыянальнай публікі ансамбль казацкай песні «Бацька атаман» з Мінска (мастацкі кіраўнік Уладзімір Куксянкоў). Калектыў створаны ў 2009 г. на базе Рэспубліканскага грамадскага аб'яднання «Беларускія казакі». У яго складзе — прафесійныя спевакі, выпускнікі Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі. Візітная картка ансамбля — высокая вакальная культура і шырокі рэпертуар, які ўключае ў сябе не толькі казачыя песні Расіі, Украіны і Беларусі, але і рамансы, эстрадныя песні. Выступленні ансамбля — заўсёды яркія, запамінальныя шоў, на якім артысты спяваюць, танцуюць, а таксама дэманструюць віртуознае валоданне майстэрствам фланкіроўкі (трукі з казацкай шабляй). Ансамбль з'яўляецца лаўрэатам і ўладальнікам Гран-пры міжнародных конкурсаў казацкай песні «Казачая станіца — Масква» і «Ліся, казачая песня». У рэпертуар ансамбля ўваходзяць беларускія, украінскія народныя і казацкія песні, праваслаўныя духоўныя спевы, а таксама песні вядомых аўтараў. У склад ансамбля ўваходзяць сем прафесійных вакалістаў. Галоўная ідэя пры стварэнні калектыву выяўлялася ў тым, каб кожны ўдзельнік ансамбля быў яго салістам. Такім чынам падчас канцэрта слухач можа атрымліваць асалоду не толькі ад зладжанага харавога спеву, але і можа пачуць непаўторны тэмбр голасу індывідуальна кожнага з удзельнікаў ансамбля. Ансамбль «Бацька атаман» выступіць таксама на Ночы купалы ў Белавежы 6 ліпеня.

Свята беларускай культуры — таксама нагода для беларускіх пісьменнікаў сустрэцца з чытачамі. Цікавіліся яны кнігамі Васіля Петручука, Віктара Шведа, Юркі Баены, Міры Лукшы, Міхася Хмялеўскага, пераглядалі і набывалі выданні і ў Яна Заброцкага, які не пакідае беларусіх фэстаў без кнігі.

— Мушу прызнацца, што цяперашняе пакаленне студэнтаў не так зацікаўленае роднай кнігай, дыскусіяй аб ёй, — сказаў кнігар і дзеяч культуры з Варшавы. — Але я надалей поўны аптымізму.

**Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ**



# Ці ўладам патрэбны фактар?

На апошнім вясковым сходзе ў Кузаве (17 траўня) войт Юры Шыкула дзякаваў мясцовай раднай і солтысу „за дбайнасць і хадайніцтва аб праблемах аднавяскоўцаў, і вырашэнні іх у карысць супольнасці". Здзівіла мяне такая ацэнка. Неаднойчы ўдзельнічаю ў сесіях Рады гміны і назіраю за ходам дыскусіі. Не прыпамінаю, каб згаданыя „абраннікі народа" хадайнічалі за справы вёскі (можна зрэшты праверыць у пратаколах сесій). Не стану тады аспрэчваць сказанага войтам, але „ацэнку" прад'яўляю пад абсуд кузаўцаў. Пакарыстаюся фактамі.

Некалькі год таму, пры войце Врублеўскім, на вуліцы Вонскатаровай, дзе крыжуецца дарога з вуліцай Вісьнёвай у Кузаву, не было шлюза і канава для адплыву вады. У час працяжных ліўняў участкі мяжуючага поля знаходзіліся пад вадою. Дзякуючы намаганням Міхася Б. і ягонага сына, нотабена солтыса, была пракапана канава ў бок рэчкі, дзе мела сцякаць вада. З ходам гадоў канава зарасла пустазеллем. Ніхто аб яго не дбае. Адказныя самаўрадавыя чыноўнікі не бачаць праблемы. Для іх усё гэта — трын-трава. А праблема сур'ёзная. Сёлета, ды не толькі, у час „затапленняў" пад вадою апынуліся панадворкі Вольгі Б. і Ежы Я. Хтосці „зварухнуўся" і прыехалі чаромхаўскія пажарнікі ды выпампавалі ваду... на ўчастак Міхася Б. Вада выбіла на полі своеасаблівы калодзеж, а гаспадар не змог праз нейкі час зрабіць пасеваў на гразкім полі. А ўсё таму, што не працавала канава і вада з падтопленых сядзіб жыхароў вуліцы Вісьнёвай праз шлюз на Вонскатаровай не сплывала ў бок рэчкі...

Іншая справа. Пры кузаўскай вуліцы растуць раскідзістыя ліпы ды іншыя дрэвы. Частка крон знаходзіцца пад электраэнергетычнай лініяй і сягае правадоў. Сёлета электраманцёры зрабілі „чыстку". Пассякалі галіны дрэў, якія дакраналіся да правадоў. І дагэтуль завальваюць яны вуліцу. Такая візітная картачка не прыносіць хвалы жыхарам вёскі, а перш за ўсё... раднай і солтысу. Гэты стан трывае месяцы. Няўжо дэпутат і солтыс прытрымліваюцца прынцыпу: „Я жыву з краю, нічога не знаю?".

І яшчэ адна справа, якая мяне хвалюе як жыхара вёскі. Ад шматлікіх гадоў у кузаўскае салэцтва амаль не паступаюць інвестыцыі. Гміна зрабіла адно рамонт вясковай святліцы, якая была пабудавана на грамадскіх пачатках і разбудавана самімі кузаўцамі ў пазнейшы час. Не ладзяцца ніякія імпрэзы. Амаль ва ўсіх вёсках гміны (за выключэннем меншых) былі арганізаваны беларускія фэсты пад назвай „І тут жывуць людзі". У мінулым годзе на такой імпрэзе ў Залешанах я гаварыў з дырэктарам Гайнаўскага беларускага музея Тамашам Ціханюкам. Было гэта пад восень. Дырэктар заявіў, што фэст у Залешанах завяршыў гадавы цыкл мерапрыемстваў і ў Кузаве магчымым будзе такое мерапрыемства ў наступным годзе. Калі я вярнуўся да тэмы 9 чэрвеня на фэсце ў Сухавольцах, дырэктар Т. Ціханюк сказаў: „У сёлетнім календары арганізаванне фэсту ў Кузаве не прадбачваецца". На маё пытанне: „Чаму?", адказаў: „Гмінны асяродак культуры ў Чаромсе не прад'явіў такой заявы". Варта напомніць, што ў Кузаве таксама жывуць людзі. Тутэйшыя... Праваслаўны народ, які становіча ставіцца да кожнага заклiку самаўрадавых устаноў. Кузаўцы ўдзельнічаюць і падтрымліваюць традыцыю грамадскай працы ў карысць сваёй малой айчыны. А салэцтва лічыць больш за сотню гаспадарак і столькі ж падаткаплацельшчыкаў. І самае сумнае, што вёска не карыстаецца салэцкім фондам, які магла б прызначыць на „свае ўласныя" патрэбы, у гэтым ліку на арганізаванне імпрэзы.

Аб згаданых праблемах я пачуў ад аднавяскоўцаў. Абяцаў іх прад'явіць войту, аднак у пятніцу 21 чэрвеня быў ён у водпуску. Затым наведаў я намесніка войта Ірынея Леанюка. Начальнік, выслухаўшы мяне, заявіў: „Прад'яўленыя праблемы не ў нашай кампетэнцыі. Паколькі адводная канава і шлюз знаходзяцца пры павятовай дарозе, іх уладальнікам з'яўляецца Павятовае праўленне дарог. Справай дрэў пад электраэнергетычнай лініяй займаюцца электраманцёры. Яны павінны прытрымлівацца законаў па ахове асяроддзя, паводле якога фарміраванне крон дрэў павінна выконвацца ў тэрміне ад кастрычніка па сакавік, калі птушкі не разводзяцца. Не ў чэрвені. Хто мае прыбіраць галіны таксама вырашае Павятовае праўленне дарог у Гайнаўцы. Можна туды пазваніць". І тут жа мой суразмоўца набраў нумар на сваім сотавым тэлефоне. Праз некалькі мінут прыслухоўваўся я ягонай размове з кіраўніком павятовай установы Крыстынай Мішчук (выходзіць яна з Чаромхі). Пасля пачуў вось такое: „Самі чулі. Галлё з вуліцы маюць прыбраць электраманцёры. Пастараюся, каб забралі яшчэ сёння (перад Сёмухай). Наконт абязводжваючам канавы і шлюза на вуліцы Вонскатаровай, спадарыня Мішчук заявіла, што прыглядзіцца асабіста справе на месцы, як будзе ехаць на рыбалку. А справа кузаўскай імпрэзы — гэта ў кампетэнцыі Гміннага цэнтра культуры". Вось, даражэнькія, як рашаюцца кузаўскія праблемы (і кім). Няўжо ўладам патрэбны фактар?..

**Уладзімір СІДАРУК**


Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка

для дзяцей і моладзі


# Тамара Саланевіч — наш скарб

Знаёмства з асобай Тамары Саланевіч мы пачалі з паездкі ў Міхалова. Ля царквы св. Міколы Цудатворца нас чакаў айцец Ян Ярашук, настаяцель парафіі. У сярэдзіне царквы нас захапілі насценныя і настольныя фрэскі аўтарства Ежы Навасельскага і Адама Сталёны-Дабжанскага. Калі айцец Ян выйшаў з-за царскіх варот у белазалатой рызе, мы адчулі радасны велікодны настрой. У час паніхіды па Тамары Саланевіч і яе сям'і мы спазіралі на дваццаць запаленых намі свечак і думалі пра жыццё і прамінанне. Пасля бацюшка пачаў расказваць пра Тамару Саланевіч. Яна часта прыязджала на парафію і размаўляла з настаяцелем. Тамара запамяталася яму як шчырая і вельмі добрая асоба. Пасля айцец Ян паехаў з намі на могілкі, да месца спачыну рэжысёркі і яе маці Вольгі.

«На надмагільнай пліце параблытаныя подпісы, — адзначыў бацюшка. — Тамара спачывае на месцы, дзе падпісаная маці, а маці — дзе пазначанае яе імя».

Тамара Саланевіч перажыла сваю маці толькі на два гады. Іх надмагілле падпісанае па-беларуску.

Мы памаліліся над магіламі і бацюшка зноў узяў слова. Ён гаварыў пра прамінанне і пра тое, што найважнейшае ў жыцці. Сказаў, што Тамара Саланевіч пакінула па сабе вялікую спадчыну, якой усе мы можам карыстацца. Магчыма, яе прыклад будзе натхняць іншых, каб працягваць справу і запісваць жыццё нашых людзей.







«Такія людзі як Тамара Саланевіч — скарб усёй Беласточчыны» — сказаў бацюшка.

Аднак людзі не заўсёды ўмеюць шанаваць магілы вялікіх людзей. Вось, на магілцы рэжысёркі і яе маці адбылася пакража. Злачынцы спілавалі металёвы крыж.

На развітанне з месцам спачыну Тамары Саланевіч найлепшыя дэкламатары на Падляшшы Наталька Васько, Міхась Бабік і Оля Зіневіч прыгожа і пранікнёна прачыталі вершы сябры рэжысёркі, народнага паэта з вёскі Тарнопаль Уладзіміра Гайдука. Айцец Ян таксама прызнаўся, што піша вершы і прадэкламаваў нам з памяці свой цудоўны верш пра Божае Нараджэнне.

**«Галерэя Тамары»**

# „Новае”

**Ты ў новым месцы,**
**Тут новыя людзі.**
**Ці ты баішся?**
**Знаёмішся з новай асобай,**
**Пачынаеш новую размову.**
**Ці ты яшчэ баішся?**
**Цяпер сядзь і падумай...**
**Ужо ўсіх знаеш,**
**Ты іх палюбіў,**
**Вы смяяліся,**
**Гулялі і спявалі,**
**Раптам пачалі плакаць.**
**Трэба ісці наперад,**
**Не трэба баяцца новага.**
**Цяпер здзіўляешся,**
**Што на пачатку баяўся.**

„Галерэя Тамары” — Наталля Васько, I кл. Гімназіі імя Тамары Саланевіч у Нараўцы.

# Куды паехаць на канікулы?

Файна паехаць за мяжу. Напрыклад, у Данію. Для дзяцей вельмі спадабаецца „Legoland”. У Швецыі варта паглядзець „Свет Піні”. Кожны знойдзе для сябе яшчэ іншыя атракцыёны. Данія і Швецыя ляжаць над Балтыйскім морам, у якім турысты ахвотна купаюцца. За морам файна, але ў сваёй вёсцы найлепш!

*„Людзі Тамары Саланевіч”*
*— Якуб Ваўранюк*
*і Крыстыян Паскробка*
*з V кл. з ПШ-ПК у Нарве.*

# Загадка (№27)

Разгадайце загадку, адказы дашліце ў „Зорку” да 21 ліпеня, найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**У яе 6 ножак.**
**Гэтыя ножкі чорныя.**
**Яна лётае.**
**У яе спіна і жывоцік**
**чырвоны ў чорныя кропкі.**
**Ці ўжо ведаеш —**
**які госцік да нас прыляцеў?**
**Адказ .........**

**„Людзі Тамары Саланевіч” — Вераніка Кардзюкевіч, чацвёрты клас НШ імя свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку.**

Адказ на конкурс-загадку № 22-13: Бяроза**.** Узнагароды — кампактдыск з паэзіяй Надзеі Артымовіч і музыкай на словы яе вершаў у выкананні Алега Кабзара — выйгралі **Караліна Кадлубоўская** з Орлі і **Мікалай Варанчук** з Арэшкава. Віншуем!

# Цалаваліся,стоячы ў халоднай вадзе...

Інтэрв'ю з **Альжбетай Раеўскай-Нікановіч**, галоўнай гераіняй фільма „Нараўчанская балада”, сёння дырэктаркай Рэгіянальнага асяродка сацыяльнай палітыкі Падляшскай маршалкоўскай управы.



Фота Ганны КАНДРАЦЮК

**Рэдакцыя „Галерэі Тамары”: —** ***Як Вы папалі ў фільм Тамары Саланевіч „Нараўчанская балада”?***

**Альжбета Раеўская-Нікановіч: —** Спадарыня Тамара прыехала да нас у школу, пра што я не ведала. Я вучылася ў беларускім ліцэі ў Бельску. Мяне папрасілі зайсці ў кабінет дырэктара. Я ішла і вельмі хвалявалася, думала: „Што я такога дрэннага зрабіла?”. У дырэктара было многа людзей. Адна жанчына, убачыўшы мяне, сказала: „Гэта яна”. А я далей не ведала пра што яны гавораць.

Тамара Саланевіч мела добрае вока да людзей. Яна напісала сцэнарый і ў галаве адразу мела вобраз асобы для ролі ў яе фільме. Як пазней я даведалася, гэта было так, што яна апісвала асобу і пасля такую шукалі сярод вучняў. Тамара Саланевіч дакладна ведала што яна хоча дасягнуць праз свой фільм.

**ГТ: —** ***Разумеем, не было ніякага кастынгу?***

**АР-Н: —** Не было. Але найперш трэба было зрабіць здымкі, каб пабачыць як выбраная асоба будзе прэзентавацца ў фотааб'ектыве. Я не памятаю, хто мне іх рабіў. Гэта быў чалавек ад пані Тамары. Мне было 17 гадоў. Мне зрабілі многа здымкаў, а пані Тамара выбрала толькі тры.

**ГТ: —** ***Вы сказалі, што перажылі шок. Вы адразу згадзіліся выступіць у фільме?***

**АР-Н: —** Я вельмі цешылася. Для мяне гэта было вельмі асабістае перажыванне. Мой брат вучыўся ў Тэатральнай акадэміі ў Беластоку. Я гэта перажывала на два спосабы: я цешылася, што выбралі якраз мяне, а з другога боку, я хацела даказаць брату, што я не горшая за яго, што зайграю ў фільме. Асабліва, што ён быў на дзесяць гадоў старэйшы за мяне.

**ГТ: —** ***Ці Вы раней ведалі сваю фільмавую „сям'ю”, ці пазнаёміліся на здымачнай пляцоўцы?***

**АР-Н: —** Я раней ведала толькі сястру фільмавай Гандзі — Кацю. Гэта мая сяброўка з Бельска, Багуся Карчэўская. Яна зараз спявае ў калектыве „Прымакі”. З іншымі асобамі я пазнаёмілася ўжо на пляцоўцы.

**ГТ: —** ***Як успрынялі вашу ролю ў Бельску?***

**АР-Н: —** Добра, нават літаваліся над маім фільмавым горам. Гэта была цяжкая роля. Працей іграць шчаслівага чалавека, а я ж на канец была пакінутай, мяне не хацелі! Так што ўсе мне спачувалі. Мы ўсе плакалі, калі здымалі адзін эпізод: калі Вася прыйшоў да маёй фільмавай маці і гаварыў, што не можа са мной ажаніцца. Мы мусілі паўтараць гэтую сцэну некалькі разоў, таму што калі я пачала плакаць, то плакалі ўсе, нават аператар. Але мы не спынялі працы, плакалі і здымалі фільм.

**ГТ: —** ***Ці Вы сустрэліся з крытыкай сваёй акцёрскай ігры, а калі так, як гэта ўспрымалі?***

**АН-Р: —** Мяне найбольш крытыкавала Тамара Саланевіч у час працы ў фільме. Яна хацела, каб мы ігралі так, як яна задумала. Як я на гэта глядзела? Як кожная маладая дзяўчына. Я сабе думала, што ўсё раблю найлепш як умею, а тут табе кажуць, што трэба яшчэ пастарацца, што трэба інаЧай, паправіць. Аднак крытыку пані Тамары я ўспрымала са зразуменнем, бо ведала, што яна хоча зрабіць добры фільм. Пасля прэм'еры не было закідаў да маёй ігры, наадварот, людзі вельмі спачувалі мне з-за няшчасця маёй гераіні.

**ГТ: —** ***Ці роля вясковай беднай дзяўчыны была для Вас далёкай ці можа блізкай?***

**АР-Н: —** Калі ідзе пра пачуцці, гэта было для мяне вельмі блізкае. Я іграла маладую закаханую дзяўчыну. У рэальным жыцці я таксама гэта перажывала. Новае для мяне было асяроддзе. Я нарадзілася і жыла ў горадзе. На вёсцы я бывала, але ў такой больш цывілізаванай. Тая вёска, якую я ўбачыла падчас здымання фільма, мяне шакіравала. Добра памятаю старыя хаткі, крытыя саломай. Фільм здымалі ў сапраўднай старой вёсцы. Тая школа з драўлянымі партамі, гэта ўсё было, не трэба было рэквізітаў, сцэнаграфіі. Сапраўды, калі ідзе пра пачуцці, гэта было мне блізкае і зразумелае. А калі ідзе пра вясковы свет і ўмовы жыцця, гэта быў новы досвед.

*(працяг будзе)*

*„Галерэя Тамары” — аўтары: Наталля Васько (Гімназія ў Нараўцы), Эва Авярчук (Гімназія ў КШ з ДНБМ № 3 у Бельску-Падляшскім), Міхась Бабік (ПШ № 4 у Беластоку), Дамініка Благушэўская і Зузанна Кардзюкевіч (НШ імя свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку), Юліта Грыка (Гімназія ў Міхалове), Адам Сцепанюк (КШ з ДНБМ № 3 у Бельску-Падляшскім). Апрацоўка і працкі: Валянціна Бабулевіч, Іаанна Марко, Уршуля Шубзда. Рэдакцыя тэксту: Ганна Кандрацюк.*

## Што ты ведаеш пра Тамару Саланевіч?

Тамара Саланевіч нарадзілася ў Нараўцы. На сваёй бацькаўшчыне яна зняла многа фільмаў, напрыклад, „Нараўчанскую баладу”, „Ці чуеш як плача зямля”. Мела яна доўгія, чорныя валасы, і часта хадзіла ў ботах на высокіх абцасах, хаця была вельмі высокай. Яе сяброўкай была Валя Панфілюк. Тамара Саланевіч нарадзілася ў 1938 годзе, а памерла ў 2000.

*Праверка ведаў:*

— Якія валасы мела Тамара Саланевіч?
— Хто быў яе сяброўкай?
— Які загаловак аднаго з яе фільмаў?
— Колькі гадоў жыла Тамара Саланевіч?

*„Людзі Тамары Саланевіч”*
*— Аляксандра Зінкевіч, пятыя класы КШ з ДНБМ імя Яраслава Касцыцэвіча ў Бельску-Падляшскім.*



Малюнак Наталлі Васько

## Сенакос

*Калышуцца белыя штандары кашуль,*
*На дарогі пракосаў плывуць касынкі жанчын,*
*Праца рытмам касы абнімае прастор.*
*Сенакос! Сенакос!*
*Сонца дыхае жарам.*
*Чую — пахне трава,*
*Пад зубамі грабель шалясціць неспакоем.*
*Сохне сена навокал.*
*Няма адпачынку рукам.*
*„Дай мне, дзяўчына,*
*напіцца сцюдзёнай вады...”*
*Сонца фарбуе на бронзу*
*Твае снежна-белыя грудзі.*
*Не чую стомы і поту,*
*Бачу вусны дзяцей,*
*Як п'юць малако,*
*Нібы ўпотай.*
*У жылах бунтуецца кроў.*
*То цана акуплення нязнанай свабоды.*

***Уладзімір Гайдук**, Полымя роднае, Бібліятэка Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа”.*

## Польска-беларуская крыжаванка № 27

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 23:

Вясна, замак, ар, ток, дом, фант, Оля, работа, Ізак, субота , хата, марш. Ват, яр, жаба, на, бот, на, фота, тата, зона, факт, адозва, школа, мякіш.

Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі **Крыстына Леўша** з Нараўкі, **Эміля Масальская**, **Каміля Фалькоўская**, **Дарыя Семяняка**, **Якуб Казімярук** з Новага Корніна, **Юлія Скарбіловіч**, **Магдалена Хвашчэўская** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!



# У Агародніччках гуляюць

Агароднічкі ў Супрасльскай гміне — вёска ў васьмі кіламетрах ад Беластока, едучы хвілін праз дзесяцьпятнаццаць ледзь заўважыш, што ты апынуўся ў сяле. Добра тут пабудавацца — рукой падаць у Беласток. І «адпачынкова» тут: сапраўдныя горы (ну, можа горкі). На раскапанай жвіроўні быў тут сапраўдны сноўпарк. У 2004 годзе праводзіўся тут першы агульнапольскі чэмпіянат па гарналыжным спорце. Быў гарналыжны схіл, які прыцягваў беластачан, вышынёю ў 200 метраў, штучна заснежваны і асветлены. На гару лыжнікі ўцягваліся пад'ёмнікам-орчыкам. Лыжны пад'ёмнік ужо разабраны. А людзі і цяпер ахвотна прыязджаюць на азёрцы, што засталіся па жвіровых кар'ерах.

Уласнікам асяродка ў Агароднічках было Падляшскае згуртаванне інвалідаў «Старт». Але ж



„Журавінкі" з Агароднічак з радным Данілам Садоўскім

## уласнікам гэтай тэрыторыі

з'яўляецца Супольнасць вёскі Агароднічкі — «**wspólnota gruntowa**» вёскі. І гатова за яе змагацца.

Супольнасць разам з Гмінным асяродкам культуры, спорту і адпачынку ў Супраслі цяпер арганізуе свае мерапрыемствы, між іншым, сямейныя пікнікі «Сляванкі». Але гміна дала ў гэты раз на мерапрыемства толькі 400 злотых. Калі б не спонсары, радны Даніла Садоўскі, Клуб вясковых гаспадынь (і яго ўнукі), дык на мерапрыемства, на якое з'ехалася шмат гасцей і з Беластока, не лічыўшы выступаючых з іншых гмін, было б вельмі сціпла...

— І нават сорамна! — кажа ўсюды непаседная Ліда Матэйчук, амаль тры дзесяткі гадоў тут ліставошка, гаспадыня і спявачка калектыву «Журавінкі», які ўсе імпрэзы, на якіх выступае, робіць беларускімі. Спяваюць трыццаць пяць гадоў фальклор, але і свае песні па-беларуску (і па-польску пра Падляшша і родную вёску, калі выступаюць у Польшчы) на словы Ніны Панкевіч. — А найбольш пра нашы інтарэсы дбае радны Даніла Садоўскі. Ён як прадстаўнік «Супольнасці» не хоча, каб нашу зямлю разабралі.

— Вёска Агароднічкі, такая блізкая да Беластока, з'яўляецца мясцовасцю вельмі атракцыйнай па будаўнічай прыкмеце. Мае яна каля дваццаці названых вуліц. Грунт каштуе каля 160 злотых за квадратны метр. Маем да падзелу 250 га супольнай зямлі. Усе жыхары з'яўляюцца ўласнікамі кавалка зямлі, зямлю распарцалявалі на меншыя ўчасткі. Рашэнне аб выкарыстанні грунту залежыць ад волі большасці жыхароў. Жвіроўня, лес, палеткі, а нават сажалкі гэта зямля каля ста чалавек (людзей у нас больш за 700). Гадамі стараемся камасаваць грунты і ўпарадкаваць сітуацыю. Беластоцкі староста лічыць, што камасацыяй грунтаў у Агароднічках павінна заняцца гміна Супрасль, а не староства. Але дзяліць не сваё гатовы кожны, у каго ёсць нейкая задума «выкарыстаць *тэрэн*».

## Як на вайне

Сучаснасць прэцца ў Агароднічкі, хаця цяжкавата размаўляецца з чыноўнікамі сялянам, хоць бы ў справе «нічыёй» жвіроўні — той гарналыжнай горкі. А сучаснасць прэцца туды заўзята: на новыя ўрокі гісторыі з браніраванымі грузавікамі, танкамі, кулямётамі, бронетранспарцёрамі, ваеннымі палаткамі. Хочуць, каб тут адбываліся ўрокі гісторыі, экалогіі, каб у суседстве ўзнік Адукацыйна-мілітарны парк. Паблізу робяць акопы і бункеры. Супрасльскія радныя аддалі будынак старой (узнікла яшчэ за царскім часам) прыгожай школы ў бясплатную арэнду арганізацыі **Towarzystwo Inicjatyw Społecznych «Czemu By Nie»**. Гэта яно арганізуе мілітарныя пікнікі . Ужо трэцяе такое мерапрыемства праходзіла на некалькіх гектарах былога жвіровага кар'ера (8 і 9 чэрвеня). Можна там было ўбачыць воінскія фарміраванні і паказы з розных эпох. Для дзяцей з нагоды свята падрыхтавалі лагер малога паўстанца. Акрамя таго дзейнічаў стралецкі цір, гістарычныя гульні, падрыхтаваныя Інстытутам нацыянальнай памяці, паказы і катанне на ваенных транспартных сродках (г.зн. танкадром) і выстава, арганізаваная Музеем войска ў Беластоку. Натхненнем для арганізацыі першага выпуску пікніка было святкаванне 180-й гадавіны бітвы з рускімі пад Сакалдой 7 ліпеня 1831 г. Паколькі імпрэза ўдалася, было прынята рашэнне, каб яе працягнуць. У мінулым годзе за два дні ваенныя атракцыёны паглядзела прыкладна 25 тысяч чалавек. На думку арганізатараў, гэтая падзея з'яўляецца вялікім урокам гісторыі, які прасоўвае не толькі польскае войска, але і гміну ды рэгіён. III Ваенная місія Усход была як найбольш дакладнай рэканструкцыяй бітвы з верасня 1939 года. Польскія салдаты ратавалі мірнае насельніцтва перад ваеннай тэхнікай фашыстаў. Прыняло ўдзел у «Місіі», якая пачалася ў суботу 8 чэрвеня, прыблізна паўтысячы членаў рэканструкцыйных гуртоў з краіны і замежжа. У нядзелю можна было паглядзець ваенную тэхніку і гістарычную дэманстрацыю, адбыліся дзве буйныя рэканструкцыі бітваў Другой сусветнай вайны: адна паказала польскую кампанію 1939 года, а другая — усходні фронт 1944 года. Групы, якія ўдзельнічалі ў пікніку, уяўлялі сабою ваенныя фарміраванні з розных эпох, ад сярэднявечча да сучаснасці, ад рыцараў да вояроў спецыяльных падраздзяленняў, такіх як польскі «Гром» ці амерыканскі «Navy SEAL». Гэтыя сустрэчы з'яўляюцца найбуйнейшым паказам рэканструкцыі і дэманстрацыі ваеннай тэхнікі ва ўсходняй Польшчы...

## Здарова, сямейна і фальклорна

Мы ў Агароднічках тыдзень пасля «бітваў», 15 чэрвеня. Яшчэ на трыццаціггоддзі калектыву «Журавінка» (2008 г.) святліца, што побач дэпо, выглядала інача. Цэнтр культуры і адпачынку ў Супраслі, пераможца конкурсу аб'яўленага Нацыянальным цэнтрам культуры на сваю канцэпцыю Цэнтр лакальнай культуры ў Падляшскім ваяводстве з праектам «Гміна Супрасль: малая айчына — вялікі свет», атрымаў быў амаль 3 мільёны злотых датацыі на 2010-2012 гады і апрацаваў сістэму, якая ахоплівае ўсю гміну, з аднаўленнем святліц, з выкарыстаннем разнароднага культурнага і мастацкага патэнцыялу ўсіх жыхароў і кантакту ўсіх іх з мастацтвам. Праект мае стварыць сістэму мікрадамоў культуры з існуючых у гміне шасці святліц у форме гмінных мастацкіх майстэрняў, кіраваных цэнтрам з Супраслі. Майстэрні маюць быць так абсталяваныя, каб прапанаваць розныя формы заняткаў — мець камп'ютарныя залы, абсталяванне для тэатральных, канцэртных, мастацкіх, спартыўных, фільмавых дзеянняў, мець таксама кухонны анекс, эстэтычныя туалеты, экспазіцыі для выстаў унутры і вонкі. І святліца цяпер — «як шклянка». Пачаліся былі новыя дзеянні ў рамках праекта — тэатральна-перфарматыўныя, музычна-літаратурныя, мастацкія майстар-класы, аб'язное кіно. Рэалізуюцца пляцоўкі для гульняў дзяцей, прэзентацыі, інтэграцыйныя імпрэзы. Рамонты святліц гэта таксама адпаведнае ўцяпленне будынкаў. Сучасным домам культуры святліца ў Агароднічках стала ўжо ў 2007 годзе, а «Журавінкі» запрашаюць не толькі на сустрэчы гуртка вясковых гаспадынь, але і на вядомыя ў ваяводстве вось гэтыя летнія «Пікнікі з „Журавінкамі"», «Падляшскую спяванку», Дзень жанчын для сеніёраў, вечарыны аматарскіх тэатраў, Дзень зямлі ды індывідуальныя і калектыўныя чэмпіянаты Польшчы інвалідаў руху па шахматах.

Запрасілі былі іх у Варшаву на з'езд ПСЛ. Прадстаўляў Збігнеў Ліпскі: «My — z Podlasia». А «Журавінкі» заспявалі «Люблю наш край, старонку гэту». «Журавінкі» ўзніклі як аматарскі фальклорны калектыў у 1978 годзе. Заснавальніцай і старшынёй калектыву была Ванда Матэйчук, пасля вяла яго Ніна Аўгустыновіч, а ад юбілею — Лідзія Матэйчук.

— Ідэя нарадзілася ў гуртку вясковых гаспадынь, — кажа спадарыня Лідзія, якая ўжо крыху падужэла пасля цяжкай хваробы, а каля яе круціцца, прыспеўваючы, праўнучка Настуся. — Спачатку спявала ў нас дзесяць кабет. Спяваем мы перш за ўсё па-беларуску, ведаем таксама і польскія, і ўкраінскія песні. Ахвотна ўдзельнічаем ва ўсіх беларускіх фестывалях, фэстах, кірмашах. Здабылі мы шмат адзнак і вылучэнняў. Чатыры спявачкі ўжо адышлі ад нас на той свет... Святкаванне нашага 35-годдзя будзе аж у кастрычніку, на адмысловым фэсце ў вёсцы, — так запланаваў кіраўнік гміннай культуры.

«Дзякуючы» зменам на вярхах у культурнай гміннай уладзе, спрычыненых абавязкам насаджвання на пасаду «партыйнаслушных» працаўнікоў з «каруселя ўлады», пасля прымушанага адыходу Марты Шымскай з пасады дырэктара (дзякуючы ёй выйграны быў конкурс праектам «Гміна Супрасль: малая айчына — вялікі свет»), пасля чарговай дырэктаркі «з партфеля», наступны дырэктар не вельмі яшчэ, здаецца, арыентуецца ў патрэбах вясковай культуры, і не заспешна знаёміцца з дзеячамі культуры. Мабыць таму і падкінуў гэтую смешную суму на імпрэзу, за якую практычна нічога талковага не сарганізуеш.

На сцэне за пажарным дэпо можна было пазахапляцца выступамі дзяцей са школьна-дашкольнага комплексу ў Агароднічках, канцэртам фальклорных калектываў і моладзевых ансамбляў. У 20-ю гадзіну зайграў гурт «Ас». На працягу дня праводзіліся гульні і забавы для дзяцей. Раней падсумавалі тут таксама Х Падляшскі рэйд экстраннай медыцынскай дапамогі. Прынялі ў ім удзел 24 каманды з усёй Польшчы.

Пікнік быў таксама добрай нагодай паклапаціцца пра сваё здароўе. За плотам стаяў мамобус, крывібус, і аж да 18-й гадзіны працаваў пункт неадкладнай медыцынскай дапамогі, дзе можна было, сярод іншых, зрабіць асноўныя тэсты: вымераць ціск і даследаваць узровень цукру ды халестэрыну ў крыві. Пункт быў актыўны. Медыцынскія паслугі былі бясплатныя. За арганізацыю медыцынскай часткі адказвала Ваяводская станцыя лячэбнай амбулаторыі выратавання ў Беластоку. Больш за ўсё кожны мог даведацца пра першую дапамогу. Пікнік адбываўся пад апекай добраахвотнай пажарнай каманды — сярод пажарнікаў быў гонар Агароднічак — чэмпіёнка свету ў лятанні на паветраным шары Іаланта Матэйчук, якая вяла мерапрыемства.

— У нас ёсць добразычлівая, вельмі сямейная атмасфера. Гэты фэст з'яўляецца выдатнай магчымасцю сустрэцца з нашымі суседзямі і правесці мілую суботу, — прызналася Юстына Тамашэўская, якая на пікнік прывяла ўсю сям'ю. — Гэта рэгулярная падзея, але магла быць арганізавана часцей.

На пікніку было сапраўды па-свойску, па-беларуску. Бо як жа інакш размаўляць з сябрамі з Гарадоцкай гміны, што прыехалі задарма парадаваць па-свойму — з «Асеннім лістом», «Калінай», з блізкай «Арабінай» з супрасльскіх Каракуль, з «Мальвянкамі» са Студзянак у Васількаўскай гміне, якія заўсёды маюць у рэпертуары беларускія песні?

На прыгарадскіх вясковых палетках усяго — дратавала іх ваенная тэхніка армій свету, прахаджваліся чыны, танцавалі дзеці, гучалі родныя словы. «Галоўнае, каб дбаць аб сваё!» — удакладняе радны Даніла Садоўскі.



**Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ**

# Малады юбілей

Некаторыя нашы мясцовасці маюць свае крыніцы ў сівой мінуўшчыне, напрыклад Кленікі, пра якія а. Рыгор Сасна быў пісаў: **„Obszar dzisiejszych Klejnik i okolic, jeszcze nie zasiedlony, znajdował się niegdyś w puszczy. Legenda głosi, że w XIII wieku zatrzymała się tu grupka mnichów, uciekających przed nawałą tatarską po spustoszeniu przez najeźdźców Kijowa i monasteru pieczerskiego pod Kijowem. Na niewielkim wzniesieniu, znajdującym się w pobliżu dzisiejszej cerkwi, mnisi pobudowali dla siebie cele — kielije. Od wyrazu „kielije” powstała nazwa miejscowości Kielejniki, zmieniona z czasem na Kleniki”** („Wiadomości PAKP”, 1987). І далей: **„Pierwsza wzmianka o „ziemi Klenikowiczów” i „polach Klenickich” pochodzi z 1540 roku, natomiast o wsi Kleniki — z 1545 roku. Wieś składa się z trzech części: Koniec, Klebanszczyzna i Zahać. Spora część ludności mieszka w sześciu koloniach, między innymi na koloniach Śliwowo, Sapowo i Podpniska”**. А якое мінулае за тымі калёніямі, напрыклад, за Слівовам?




Крыжы перад Слівавам

Дэталі крыжоў

У мяне „першай весткай” пра Слівова быў адрас ніўскага карэспандэнта Ціхана Трахімюка, які ў 1981 годзе ярка апісваў сваё бежанства ў Расію. У яго ўспамінах яшчэ нічога пра Слівова няма, але быццам ёсць ужо намёк на будучыню прысёлка: „15 жніўня 1922 года прыбыў у сваё роднае сяло Кленікі. Перад вачыма паўстала жудасная карціна: панадворак, дзе стаялі бацькоўскі дом і іншыя гаспадарчыя пабудовы, суцэльна парос кустамі і крапівой. Там, дзе калісь стаяла печка, на якой я сем гадоў таму ладзіў свае пасталы, вырас вялікі куст ракіты і дзве бярозкі таўшчынёй з аглоблю. Зямля ў цераспалосіцы... Наступала зіма, а мы не мелі дзе жыць. Начавалі кожны раз у іншай хаце. Не было чаго есці. Прадаў я паўгектара добрай ворнай зямлі, бо іншага выхаду не было. Атрымаў за яе сорак пудоў бульбы і невялікі стары хлеў, з якога паставіў сабе хатку памерам чатыры метры на чатыры...”.

Ліквідацыя цераспалосіцы праходзіла ў Кленіках восемдзесят гадоў таму. Пра гэта расказаў мне ўраджэнец Слівава, а зараз жыхар Нарвы Ян Тапалянскі:

— У 1933 годзе было многа ахвотных — людзі вярнуліся з бежанства, хацелі хлеба, хацелі вырошчваць хлеб і мець хлеб. Калі хто хацеў перасяліцца з вёскі на калёнію, таму прапанавалі два гектары заміж аднаго дасюлешняга. А, напрыклад, для перасяленцаў у Граматнае давалі тры гектары за адзін. На калёніі ў Сліваве склалі заяўкі каля трыццаці гаспадароў. Перанеслі туды свае збудаванні, пакупплялі новыя. Але ў Кленіках такіх прысёлкаў было яшчэ тры: Цінкаўшчына, Абезянава і Бурыскі. Але сярод іх вылучалася Слівава, бо найбольшае было. Цераз Слівава праходзіў г.зв. Царскі гасцінец: ад Кленік цераз Ляды, Койлы, Новае Беразова, Дольнае ў Гайнаўку. У 1944 годзе, калі наступалі рускія, то гэтым гасцінцам ішлі салдаты, бітком, адзін за другім.

Пры першым павароце гэтага гасцінца стаяў крыж. Каля таго крыжа я са сваімі сябрамі хадзіў штодзённа ў школу ў Кленікі. Тады са Слівава ў школу хадзіла шмат дзяцей; наша моладзь трымала тады кампанію таксама з равеснікамі з Радзькоў. Я стаў вучыцца яшчэ пад акупацыяй; кіраўнік школы называўся Давідзюк, а настаўніцу называлі Бігусянкай. Той крыж на схіле 1970-х гадоў упаў і нехта са слівавян пабудаваў там такі невялікі крыж мураваны, у 1978 годзе. І вось нядаўна паявілася задума паставіць большы крыж, падобны на той, які стаяў там раней. І ён быў пастаўлены 26 красавіка г.г., толькі чакае ўрачыстага пасвячэння. Дарэчы, насупраць крыжа — мая бацькаўшчына, на якой стаў гаспадарыць мой брат, а цяпер ягоны сын.

— Забудова Слівава цягнецца ланцужком паралельна да Кленік ад Радзькоў у напрамку Сапава; ад Сапава распаложаны іншы кленіцкі прысёлак Цінкаўшчына. Ці паміж забудовамі ёсць нейкая вуліца, дарога? — пытаю.

— Раней была, але калі стаў набліжацца капіталізм, тады людзі пагарадзілі свае ўчасткі і такой дарогі цяпер няма, але сцежка для праходу паміж сядзібамі асталася. Да паасобных панадворкаў дарогі вызначаны ад Царскага гасцінца.

— А адкуль тыя гектары для падваення гаспадарак браліся?

— Не ўмею сказаць.

Магчыма, што былі лішнія па тых вяскоўцах, якія не вярнуліся з бежанства. А ў Кленіках была яшчэ адна крыніца лішніх гектараў; а. Рыгор Сасна: **„W latach 1920-1922 budynki parafialne w Klejnikach były zajęte przez władze świeckie, a w 1926 roku wywłaszczono 37 ha ziemi cerkiewnej”**.

— Вы згадалі пра Граматнае. Ці там не было нікога, што аж такімі мерамі заахвочвалі людзей да перасялення туды?

— Магчыма, бо ж тыя Сянкевічы, што пайшлі ў Граматнае, перасяліліся туды з Новага Беразова. І яны там атрымалі ў тры разы больш надзел угоддзяў.

А ў Сліваве пасля вайны было каля сарака калёній, бо іх далей дзялілі бацькі для дзяцей. А пасля тыя малодшыя павыбіраліся ў гарады, асталося ўжо менш, але ў прынцыпе трымаюцца тыя калёніі ў амаль непарушным стане. Слівава, гэта, мабыць, назва ранейшага ўрочышча, ад якога і пайшла назва прысёлка.

Тыя гаспадаркі былі даволі вялікія: мае бацькі мелі каля дваццаці пяці гектараў, а сям'я маёй мамы — каля трыццаці. Кулакі. Як прыйшлі саветы, то пайшла такая пагаворка: вісеў арол — як завёз то змалоў, а як серп і малаток — тады пастой, браток. Увялі шарваркі — камяні ў вёску, у Кленікі, вазіць; многа камянёў навазілі. Будавалі шашу з Бельска ў Нарву. Пачалі брукаваць дарогу яшчэ перад саветамі, а канчалі пры немцах.

Пры саветах наша сям'я насушыла ўжо сухароў, віселі мяшкі ў каморы, бо спадзяваліся вывазу на белыя мядзведзі. Вывезлі з Іванок, то спадзяваліся мы, што і з Кленік неўзабаве вывезуць. Калі тых з Іванок завезлі пад Мінск, то ўжо нямецкія самалёты ляталі над імі. А тыя сухары спатрэбіліся нам пасля, калі праходзіў фронт — тады мы схаваліся і сілкаваліся тымі сухарамі з вадою і малаком. А як прыйшла новая ўлада, то таксама сталі раскулачваць...

— Але ці было для каго раскулачваць?

— Было, бо такіх вялікіх гаспадарак, „кулацкіх”, было ў Сліваве бадай пяць, а апошнія былі меншыя — па дзесяць і крыху больш гектараў. Аднак лічылася таксама якасць будынкаў, бо ж былі і такія, дзе цераз сцяну трымалі і дабытак. Так было і ў нашай сям'і, калі жыла ў Кленіках, але калі перабіраліся ў Слівава, то купілі ў Пасталове хату, даволі вялікую.

— Былі тры катэгорыі сялян: кулакі, сярэднякі і беднякі; ці ў Сліваве былі беднякі?

— Не, не было. Бо ж атрымалі большыя надзелы зямлі. Не ўсе перасяленцы былі з Кленік. Некалькі сем'яў было з Ляхоў і з Гародчына.

— Ці Слівава мела нейкую аўтаномію ад Кленік, ці, напрыклад, мела свайго солтыса?

— Было Слівава нейкі час салэцтвам, зараз пасля адміністрацыйнага перападзелу краіны ў палове 1970-х гадоў. Ад Слівава быў тады радны ў Чыжоўскай гміне. І нумарацыю хат мела Слівава сваю, а цяпер яна ўключана да кленіцкай нумарацыі; цяпер у Сліваве „высокія” нумары.

Даўней у Кленіках па-польску не гаварылі; калі хто загаварыў, то з такога смяяліся. Пад нямецкай акупацыяй чыталі беларускую „Новую дарогу”, завучвалі на памяць вершы. А зараз пасля вайны, у 1946 годзе, быў праведзены перапіс насельніцтва, дзе было пытанне пра нацыянальнасць. І гаварылі тады, што ўсе ў нас запісаліся беларусамі. Толькі адзін такі, які па-польску і слова не ўмеў сказаць, запісаўся палякам, з боязі, каб не вывезлі. А пасля вайны то нават багатыя разважалі, ці не выехаць, але ніхто так і не выбраўся.

— У шасцідзесятых-сямідзесятых гадах Канстанцін Майсеня будаваў на Гайнаўшчыне вясковыя крамы. Ці ў Сліваве, якое тады налічвала каля сарака хат, таксама паўстала нейкая крама, мо ў прыватнай хаце?

— Не. Слівава лічыла сябе часткай Кленік і там афармляла справы. Слівава сфармавалася, у вялікім спрашчэнні, у выніку бежанства, з патрэбы хлеба.

— Людзі бралі зямлю; а як яны на той зямлі гаспадарылі?

— Адна частка прызначалася пад ворыва, а частка на пашу.

— А дзе былі сенажаці?

— На Самэцкім, між Градочным, Тыневічамі і Даратынкай. На два вазы ехалі, касілі косамі, кулі трэба было выносіць на сухое месца. Да меліярацыі, якая была праведзена ў пачатку 1950-х гадоў, капалі там торф. А пасля меліярацыі такая трава павырастала, што цяжка было касою касіць і людзі сталі купляць конныя касілкі на жалезных колах.

Згаданая Ціханам Трахімюком цераспалосіца была не толькі вялікім клопатам сялян, яна таксама стала ў ранг дзяржаўных праектаў. Дзеля ўніфікацыі заканадаўства пасля вяртання да незалежнасці 31 ліпеня 1923 года быў прыняты закон датычны камасацыі грунтаў, які стаў падставай для камасацыйных дзеянняў у міжваенны перыяд. Найбольшы размах камасацыя атрымала менавіта ў тадышнім Беластоцкім ваяводстве, дзе яна ахапіла 54% грунтаў; у іншых ваяводствах гэты паказчык быў намнога меншы. Закон быў прыняты дзевяноста гадоў таму, а дзесяць гадоў пазней спарадзіў ён прысёлак Слівава, якому сёлета выпадае юбілей васьмідзесяцігоддзя. Кленікам жа, паводле легенды — восемсот...



Ян Тапалянскі

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**



# На Тройцу у Крынках

Памяць Антонія, заступніка крынскай могільнікавай капліцы, у гэтым годзе ўшанавалі на чацвёрты дзень вялікага Сыходу Святога Духа — сімвала пачаткаў існавання новазапаветнай царквы. Тройца асабліва выявіла сваю прысутнасць сабраным на крынскіх могілках. Яе дапаўненнем было ўрачыстае пасвячэнне крыжа на магіле расстраляных у час Другой сусветнай вайны маладых мужчын з вёскі Кудрычы. Гэтая вёска знаходзіцца цяпер па другім баку мяжы. Раней, так як суседнія Семяноўка, Геніюшы ці Петрашэвічы, належала да Крынскага прыхода.

— Не забывайце, што ўсе нашы пачынанні павінны быць накіраваны не толькі да людзей, але і да Бога, — гучалі словы святочнай пропаведзі ў крынскай капліцы. — Сёння молімся за тых, якія можа яшчэ не папалі у рай, і за тых, якія ўжо там ёсць. Яны таксама пра нас помняць і дапамагаюць малітвай у прастола Гасподняга.

Аб захаванні памяці аб спачыўшых у брацкай магіле на ўзгорку крынскіх могілак кудрычанах рупіцца беластачанін, ураджэнец Крынак, Вадзім Курчук. Менавіта ён з'яўляецца ініцыятарам і каардынатарам узвядзення пасвячанага ў гэты дзень марmuровага крыжа і новых мемарыяльных дошак з імёнамі загінуўшых. Прыхільнікаў і спонсараў сваёй акцыі спадар Вадзім знайшоў ва ўладах Крынскай гміны і Падляшскага ваяводства. Бурмістр Крынак Багдан Панасюк і старшыня Гміннай рады Аліцыя Трызна не адмовіліся ад асабістага ўдзелу ў мерапрыемстве. Гаспадары гміны прывіталі і прынялі ўрачыстым абедам у мясцовым рэстаране ініцыятара пабудовы помніка і нашчадкаў спачыўшых — ганаровых гасцей свята. З'ехалі яны ў Крынкі дзякуючы намаганням Вадзіма Курчука, які некалькі разоў наведваў польскае Генконсульства ў Гародні, каб дапамагчы вырашыць візавыя праблемы. На жаль, большасць жадаючых так і не атрымала права на ўезд. Пашанцавала толькі адной беларускай сям'і. Апрача іх у Крынкі з'явіліся яшчэ дзеці і ўнукі загінулых, раскінутыя па Літве, Расіі і Беласточчыне. Госці выказалі сваю ўдзячнасць мясцовым за памяць пра іх бацькоў і дзядоў.

Ян Каліш, родам з падкрынскіх Саннікаў, прыехаў сюды памінаць, між іншым, свайго дзядзьку — Яна Кірэйчука. Яшчэ ў 1983 годзе ён абгарадзіў брацкую магілу. Спадар Ян заняўся таксама пошукам інфармацыі пра ўсіх расстраляных кудрычан нібыта за супрацоўніцтва з партызантамі.

Яго спісак ахвяр дзеліцца, у асноўным, на дзве часткі: забітых у ліпені 1941 года і расстраляных у сакавіку 1942 года.

У першай часты апынуліся Кірэйчук Ян, яго брат Кірэйчук Канстанцін, Савіцкі Уладзімір, Чэкель Шымон,Чэкель Уладзімір, Юрчук Іосіф, Муха Юліян.

Другую частку састаўляюць Муха Міхаіл, Менька Юліян, Менька Міхаіл, Шах Канстанцін, Ганчарук Ян — бацька, Ганчарук Ян — сын, Кірэйчук Ян — бацька двух Кірэйчукаў з папярэдняга спіска, Ляговіч Ян, Наўмовіч Міхаіл, Наўмовіч Уладзімір, Леанчук Юліян, Леанчук Канстанцін, Іпаліт Цітко, Мікалай Каліш — жыхар вёскі Саннікі, які часова знаходзіўся у вёсцы Кудрычы і Іван — чырвонаармеец, якога параненага прывёз з лесу пад Талькоўшчынай да сваёй хаты Ян Кірэйчук.

Нашчадкі спачыўшых

Гісторыя гэтага здарэння, запісаная ў памяці найстарэйшых крынчан, гаворыць пра данос нямецкім акупантам зроблены жыхарамі навакольнай „польскай" вёскі на „рускіх" гаспадароў з Кудрыч. Нібыта кудрычане мелі потым магчымасць такой жа крывавай помсты, але яе месца заняло хрысціянскае прабачэнне.

Пра жахлівую падзею распавяла народжаная ў Крынках гродзенка, калісь жыхарка Кудрыч, Лідзія Емільянчык — дачка пакойнага Яна Кірэйчука. Яе бацька працаваў у Крынках страхавым агентам.

— Два тыдні пасля пачатку вайны ў вёску прыехалі немцы. Мы якраз абедалі, за сталом сядзелі, — гаворыць яна. — Выклікалі: Кірэйчук Ян, Кірэйчук Канстанцін. Мы разам жылі, у адной хаце. Забралі і павезлі ў Крынкі. На другі дзень мы туды паехалі, а ўжо ім далі ў рукі лапаты і пагналі на Прафітку — што пры дарозе ў Беласток. Мама з суседкай беглі за імі. Стаміўшыся, мама ўпала на дарозе. Толькі пачула выстрал з аўтамата. Чаму гэтак сталася? Хтосьці заўдаў напэўна. Мама так і гаварыла. Адправіўшыся за бацькам у Крынкі з харчом, папрасіла аднаго на службе перадаць каву. У адказ пачула: „Зараз напіем се чырвонэй кавы". Гэты службіст калісь свіней купляў у наваколлі, мясніком быў. Аднойчы хацеў абмануць кагосьці ў вёсцы, але бацька не дазволіў. За тое мой папа пачуў: „Я тобе ешчэ пшыпомнэ". Хто ведае як гэта было напраўду? — канчае свой успамін Лідзія Емільянчык.

На магілу прыйшлі таксама валанцёры — вучні крынскай школы са сваімі апекунамі. Менавіта да іх спадар Вадзім Курчук накіраваў словы „Ніколі больш вайны!".

Пасля завяршэння на крынскіх могілках памінальнай службы госці з замежжа падаліся ў горад, на хвалюючую, поўную слёзных успамінаў вандроўку па месцах свайго нараджэння і хрысцін.

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**




# http://yankakupala.ru

Беларускую літаратуру немагчыма ўявіць без постаці Янкі Купалы. Яго называюць народным песняром, выразіцелем беларускага духа. Нашы сучаснікі прысвячаюць яму вершы, ствараюць песні, называюць яго імем вуліцы і плошчы. Праўда, у Беларусі імя Купалы нададзена значна меншай колькасці ўстаноў і вуліц, чым бальшавіцкім дзеячам, але трэба прызнаць, што цяперашняе пакаленне ведае яго, верагодна, лепей чым іх.

Кнігі з творамі Купалы можна сустрэць у беларускіх кнігарнях. Дзякуючы інтэрнэту, мы можам пазнаёміцца з яго творчасцю і на адпаведных сайтах, такія як „Янка Купала", што месціцца па адрасе http://yankakupala.ru.

Выява сайта зроблена ў выглядзе нататніка з пажаўцелымі аркушамі. „Вітаем Вас на сайце класіка беларускай літаратуры, паэта, драматурга і публіцыста Янкі Купалы (Івана Дамінікавіча Луцэвіча)! Янка Купала — класік сусветнай і беларускай літаратуры, адзін з заснавальнікаў новай беларускай літаратуры і сучаснай беларускай літаратурнай мовы, народны паэт Беларусі, духоўны лідар беларускага нацыянальнага адраджэння. Ён аднaчасова выступаў як паэт, драматург, публіцыст, перакладчык, грамадскі дзеяч", — распавядаецца на галоўнай старонцы сайта ў прывітальным тэксце да наведвальнікаў. Стваральнікі партала абяцаюць пазнаёміць з творамі народнага паэта, паказаць фотагалерэю, „а таксама знайсці шмат іншай карыснай інфармацыі".

Нягледзячы на традыцыйную будову сайта, выглядае ён даволі нязвыкла і прывабна. Пасярэдзіне галоўнай старонкі месціцца фотаздымак Янкі Купалы, які можна змяніць на іншую яго ж фатаграфію, клікнуўшы на стрэлку з боку выяўлення.

Выйсці на рубрыкі сайта знаходзяцца толькі з левага боку. Іх даволі многа і яны аднaчасова сістэматызуюць творы Купалы па жанрах. Тут паасобку месціцца вершы, байкі, паэмы, п'есы. Першай жа рубрыкай ідзе „Жыццяпіс". Біяграфія вядомага літаратара прадстаўлена больш-менш падрабязна. Там распавядаецца не толькі пра асноўныя вехі Купалавага жыцця, але і пра яго найбольш значныя творы. Адсюль цікавы карыстальнік можа даведацца, што сваю літаратурную дзейнасць будучы беларускі пясняр пачаў на польскай мове, а першы вядомы яго беларускі верш «Мая доля» датаваны 1904 годам.

Для вывучэння творчасці паэта варта ўлічваць два этапы ў ёй — да рэвалюцыі 1917 года і пасля яе. Дзвюма асобнымі рубрыкамі яна пазначана і на гэтым сайце. Выйсці на іх таксама месціцца з левага боку цэлага выяўлення.

Стваральнікі сайта раздзялілі ягоныя вершы тэматычна. Беларускі народ, вёска, вясна, змаганне, каханне, паэт і паэзія, прырода, родная мова, родны край, сяляне — гэта своеасаблівыя тэгі — катэгорыі, якія адсартаваны па тэматыцы вершаў.

Акрамя таго, з левага боку выяўлення можна знайсці творы Янкі Купалы, сістэматызаваныя ў храналагічным парадку з 1905 па 1942 год. Асобнай рубрыкай падаюцца ягоныя сачыненні, год якіх застаўся не высветленым.

Рубрыка „Словы пра Купалу" змяшчае разнастайныя выказванні іншых беларускіх літаратараў аб народным паэце. „Цяжка, ды і немагчыма ўявіць нас, беларусаў, без Янкі Купалы. Ён наш буквар і энцыклапедыя, песня і сумленне", — цытуюцца там словы паэта Аляксея Пысіна.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

ДАТА З КАЛЕНДАРА

ДАТА З КАЛЕНДАРА ДАТА З КАЛЕНДАРА ДАТА З КАЛЕНДАРА ДАТА З КАЛЕНДАРА



Дужы духам

# 95 гадоў з дня нараджэння Рыгора Бярозкіна

3 ліпеня 1918 г. у Магілёве нарадзіўся Рыгор Бярозкін, беларуска-яўрэйскі пісьменнік, крытык, журналіст. У сваім горадзе ён вучыўся на педагагічным рабфаку, а ў 1933-1938 гг. на літаратурным факультэце мінскага педагагічнага інстытута (цяперашні ўніверсітэт імя Максіма Танка). Пачаў друкавацца ў 1935 г., працаваў загадчыкам аддзела крытыкі часопіса „Полымя рэвалюцыі", пазней у газеце „Літаратура і мастацтва".

У час сталінскіх рэпрэсій Рыгор Бярозкін быў арыштаваны НКВД у красавіку 1941 г. Знаходзіўся пад следствам у Мінску. Калі б не пачатак Другой сусветнай вайны на тэрыторыі Беларусі, напэўна быў бы расстраляны. Па адной з версій, калі 26 чэрвеня 1941 г. калону зняволеных, сярод якіх быў Бярозкін, пакінуў канвой, ён уцёк. Пазней ваяваў, удзельнічаў у баях пад Сталінградам, Кіевам, у Карпатах. Атрымаў баявыя ўзнагароды. Пасля вайны быў карэспандэнтам газеты савецкай ваеннай адміністрацыі ў Германіі „Советское слово".

Другі раз Бярозкін быў арыштаваны 9 жніўня 1949 г. Нехта напісаў данос — быццам Бярозкін у скрынках з-пад артылерыйскіх снарадаў развозіў на франце сіяніцкую літаратуру. У чэрвені 1950 г. асуджаны на 10 гадоў савецкіх канцлагераў. Знаходзіўся ў зняволенні ў Карагандзінскай і Омскай абласцях. У 1955 г. вызвалены, а на наступны год рэабілітаваны. З 1960 г. працаваў у часопісе „Советская Отчизна", у газеце „Літаратура і мастацтва", літаратурным супрацоўнікам бюлетэня „Помнікі гісторыі і культуры Беларусі". У тыя гады шмат публікаваўся, імкнуўся аднавіць імёны рэпрэсаваных паэтаў.

Прадметам даследаванняў Бярозкіна была найперш беларуская паэзія. Для яго прац характэрныя спалучэнне праблемнасці з канкрэтным аналізам, эстэтычная патрабавальнасць, уменне раскрыць творчую індывідуальнасць паэта. Творчасць беларускіх паэтаў, праблемы паэтычнага майстэрства Бярозкін аналізаваў у кнігах „Паэзія праўды" (1958, у ёй разглядаецца паэзія Петруся Броўкі, Аркадзя Куляшова, Максіма Танка, Пімена Панчанкі), „Спадарожніца часу" (1961), „Пімен Панчанка" (1968), „Аркадзь Куляшоў" (1978). У кнігах „Свет Купалы" (1965), „Чалавек на світанку" (1970), „Звёны" (1976) даследаваў творчасць Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Цёткі. Пісаў крытык ажно на трох мовах — беларускай, рускай і яўрэйскай. Многім яшчэ са школьнай праграмы напэўна помніцца яго дзіцячыя вершы.

Памёр Рыгор Бярозкін 1 снежня 1981 г. у сталіцы Беларусі, пахаваны на Усходніх могілках Мінска. Ягоны цёзка, Рыгор Барадулін, прысвяціў яму такія паэтычныя радкі: „З пасмаю дыму ад папяроскі, заламаной па-кавалерску за вухам, дыміўся кратэрам Рыгор Бярозкін — Кволы здароўем, дужы духам".

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

Фота Міры ЛУКШЫ

Беласток, 29 чэрвеня 2013 г.
**Сябрам**
**Беларускага літаратурнага**
**аб'яднання „Белавежа”**

Паважаныя Юбіляры!

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва” і ўвесь рэдакцыйны калектыў шчыра віншуюць Вас са слаўным 55-гадовым юбілеем. Мы ганарымся тым, што заснавальнікам творчай арганізацыі беларусаў у Польшчы быў тагачасны галоўны рэдактар „Нівы” светлай памяці Георгій Валкавыцкі, што ў тадышніх умовах на працягу дзесяцігоддзяў старонкі нашай газеты былі адкрыты для людзей пяра, што вакол нашай рэдакцыі гуртавалася беларуская творчая інтэлігенцыя Беласточчыны.

У новых умовах, калі літаратары маюць шырэйшыя магчымасці публікаваць, мы працягваем традыцыю апекі над аматарамі прыгожага слова, прыкладам чаго з'яўляюцца штогадовыя конкурсы беларускай літаратуры і прозы „Дэбют”, удзельнікі якога папаўняюць рады Літаб'яднання „Белавежа”.

З нагоды юбілею жадаем Вам, шаноўныя „белавежцы”, моцнага здароўя, шчасця ў жыцці і творчага плёну. Хай Вашая творчасць развівае нацыянальную свядомасць і мацуе дух беларусаў Беласточчыны!

Яўген Вапа
Старшыня Праграмнай рады тыднёвіка „Ніва”
Галоўны рэдактар тыднёвіка „Ніва”

# Мішкі зноў у пушчы?

Нядаўна часопіс для паляўнічых „Łowiec Polski” надрукаваў цікавы артыкул Марка Ледвасінскага „Белавежскі мішка”. Думаю, што яго тэма зацікавіць шматлікіх чытачоў „Нівы”.

Буры мядзведзь жыў калісьці ў нашых пушчах і лясах. Цяпер ён сустракаецца вельмі рэдка, а з Белавежскай пушчы знік у канцы XIX стагоддзя. З ідэяй паўторнага засялення мядзведзяў у Белавежскую пушчу выступілі Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Нацыянальны парк Белавежская пушча і грамадскае аб'яднанне „Ахова птушак Бацькаўшчыны”. Хочуць яны мядзведзяў прывезці з Расіі, каб — як кажуць — ратаваць лес. На іх думку, пушчы вельмі шкодзіць дзікая капытная жывёла: алені, зубры, ласі, якія сапраўды з'ядаюць вялікую частку зарасніку. Адтуль узялася ідэя засяліць у пушчу іх натуральных ворагаў — мядзведзяў. Беларускі бок плануе засяляць у Белавежскую пушчу 4-8 мядзведзяў штогод на працягу 3-5 гадоў. Спонсарам мерапрыемства мела б быць Франкфурцкае заалагічнае таварыства. Агульны кошт засялення на новым месцы аднаго мішкі еўрасаюзныя бюракраты разлічылі на 50 тысяч еўра.

На польскім баку мяжы гэтыя планы ўспрымаюцца з неахвотай. Як навукоўцы, так і леснікі лічаць, што ў Белавежскай пушчы мядзведзям няма ўжо месца. Цяперашняя пушча зусім іншая ад колішняй. За апошнія стагоддзі зменшылася яе плошча, менш у ёй старога лесу з натуральнымі ляснымі нетрамі, у якіх водзіцца жывёла. Тым часам аднаму мядзведзю неабходная тэрыторыя плошчаю ў 30 тысяч гектараў. Такім чынам у польскай частцы пушчы месца хапіла б толькі для адной пары. А што будзе, калі з Беларусі на польскі бок пяройдзе больш чым адна пара мядзведзяў? А дзе месца для магчымага іх патомства? У такой сітуацыі мядзведзі будуць вымушаны выходзіць па-за лясны масіў і стануць пагражаць жыццю хатняй жывёлы і людзей.

У міжваенны час былі спробы паўторнага засялення мядзведзяў у Белавежскую пушчу. Ужо пасля паўгоду — летам 1938 г. — па віне мядзведзя загінуў першы чалавек. Летам 1942 г. пад Гайнаўкай мядзведзь забіў жанчыну з дзіцём, якія збіралі ягады. У 1944 г. загінула чарговая асоба, якую мядзведзь разарваў. На шчасце справу вырашылі браканьеры. Апошні кантакт з мядзведзем меў месца ў 1952 г. і з гэтай пары гэтых жывёл у пушчы няма. Двойчы з'явіліся нейкія вандроўныя мядзведзі з Беларусі (жыве іх там на свабодзе 80-90 асобін), але яны толькі прыйшлі і пайшлі сабе. На шчасце!

Канчатковага рашэння беларускія ўлады яшчэ не прынялі. Можам тады спадзявацца, што перамога здаровы розум, а не аргументы, якія не маюць дачынення да аховы прыроды. Столькі гадоў абыходзіліся мы без мядзведзяў, дык можа і далей без іх дамо сабе рады?..

**М. Ц.**

# Адгаданка

Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — прыказку.

1. стагоддзе = 10 _ 9 _ 17 _;
2. жорсткі рымскі ўладар, выхаванец Сенекі = 23 _ 24 _ 22 _ 21 _ 8 _;
3. пара сутак з зорным асвятленнем = 14 _ 13 _ 12 _;
4. прыкрывае вока зверху = 20 _ 19 _ 5 _ 6 _ 7 _ 4 _;
5. хвойнае дрэва сямейства кіпарысавых (*Thuja*) = 18 _ 11 _ 16 _;
6. вялікі шост = 25 _ 15 _ 27 _ 30 _ 29 _ 26 _;
7. лоб = 1 _ 2 _ 3 _ 28 _.

(ш)

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
| 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 |
| | | | | | | 16 | 17 |
| | | | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 |
| 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

Адказ на адгаданку з 22 нумара

Круцель, пешка, стратэг, кабатаж, паварот, лунка, месца, хан, чало, Ева, боль, шрам, баян, пан, ганак, сакрэт, цюбік, гол, шынель, лоўля, Ясь, хор.

Рашэнне: **Кажуць, што пацалунак гэта мова кахання, але больш канкрэтна прамаўляюць грошы**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00]. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2013 roku — 52.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

# 07.07 — 13.07

**(22.03. — 20.04.)**. Калі ты адзінокі, шанцы пазнаёміцца з кімсьці цікавым маеш аж да 22.07. 6-10.07. чакаюць цябе незабыўныя жарсці ў каханні, прадказанне больших змен у пачуццёвым жыцці. 13.07. прадбачваюцца спазненні, трэба будзе разлічваць на кагосьці. Калі ў суботу табе дарогу перабяжыць белы кот, прадкажа гэта любоўныя прыгоды, пагубныя для твайго лёсу.

**(21.04. — 21.05.)** Паявіцца шмат карысных выпадкаў. Варта цяпер рызыкнуць смелыя задумы. Падгоніш хвасты. Да 13.07. маеш шанц зарабіць немалыя грошы, без вялікага высілку. Ды хутка можаш іх выдаць. У чацвер пільнуйся, каб не параніцца шклом.

**(22.05. — 22.06.)** Добрая форма і настрой. 7-11.07. прадбачваюцца цікавыя задумы, з шанцамі на ажыццяўленне. У кашальку няпуста. Маладзік Месяца 8.07. падкажа табе найлепшыя дзеянні для паправы ў фінансах. Каханая асоба будзе схільнай да сур'ёзных прызнанняў. Добры час на дыеты. Задбай аб свой пазваночнік.

**(23.06. — 23.07.)** Ракі без пары могуць разлічваць на пералётныя раманы; не ўпусці шанцу на сапраўднае пачуццё. Пры маладзіку Месяца 8.07. набярэш ахвоты на новы пачатак; схочацца адкінуць усе абмежаванні (таксама навязаныя лекарамі!). З 10.07. аддаляцца чорныя хмары на працы. 13.07. маеш шанц перакаваць турбуючыя цябе эмоцыі і знішчальны стрэс у энергію для дзеяння.

**(24.07. — 23.08.)** 7-11.07. узмоцніцца твая інтуіцыя; варта ёй давяраць. Твой запал і энтузіязм будуць заразныя. Добры момант для дасягнення сваіх мэт! Ты пад уплывам Венеры аж да 22.07. (толькі не напалохай сваёй упартасцю магчымых залётнікаў). Не кладзі грошай на стол, на якім ясі, каб не пакінула цябе ўдача.

**(24.08. — 23.09.)** Нядрэнная форма. Неацэнныя шчырасць і адкрытасць. Твае планы будуць здзяйсняцца. Наведай сваякоў за мяжой. Здаровыя навыкі, якія цяпер увядзеш у жыццё, дадуць плён у будучыні. 7-8.07. можаш рассакрэціць чыюсь тайну. Маеш шанц выкарыстаць свае веды і нікога не пакрыўдзіць. Асабліва ўдалыя здзелкі ў бізнесменаў.

**(24.09. — 23.10.)** 6-10.07. лёгка будуць наладжвацца знаёмствы, адкрыюцца перад табою дагэтуль зачыненыя дзверы. Не займайся справамі іншых, хай усё робяць самі. З 8.07. маеш шанц выйсці на простую дарогу ў фінансах, ды не спадзявайся асаблівага багацця. Старайся не ўзбуджацца і нецярплівіцца. Нагоды падзарабіць

**(24.10. — 22.11.)** Можаш урэшце адкрыцца на новае каханне (можа гэта быць хтосьці неспадзяваны, з вялікім аўтарытэтам і павагай у асяроддзі). Не шкадуй часу на адпачынак. 10-14.07. будзь асцярожны з фінансавымі інвестыцыямі; не падпісвай дамоў, адмоўся ад дарагіх пакупак. У чацвер магчымыя непрыемнасці звязаныя з вадой. У суботу ўдачы з інтэлектуальнай працай.

**(23.11. — 22.12.)** 7-9.07. дасканалы настрой; глянеш на сябе і іншых лагодным вокам. Нуды не будзе! Варушыся, прымяні тайчы або цыгун. Целам займіся найлепш 12-13.07., калі Месяц будзе ў знаку Дзевы. Акупяцца твае капіталаўкладанні, удалыя будуць знаёмствы і паездкі. Не пачынай кідаць курыць у аўторак.

**(23.12. — 20.01.)** Чакаюць цябе сямейныя сустрэчы. Схочаш кінуць шкодныя звычкі, але не распавядай аб гэтым. Услухоўвайся ўвесь месяц у нават найменшыя недамаганні. У кар'еры час спробы (могуць даць табе іншы занятак, які будзе нагодай падвучыцца новаму і даказаць, які неацэнны з цябе працаўнік); ажывяцца пасля зайздроснікі.

**(21.01. — 19.02.)** 6-10.07. — дасканала; маеш шанц пазбегнуць немалых турбот; не пакіне цябе аптымізм. Ды 9-13.07. будзеш думаць найбольш пра сябе, што давядзе да сур'ёзных размоў. Могуць змяніцца твае паны адпачынку, але двойчы пасля гэта будзе ўзнагароджана. Паспяхова задбаеш аб сваё цела (крэмы, масажы, купанні, араматычныя алеі, дыета).

**(20.02. — 21.03.)** Шыкуйся на сюрпрызы! 6-10.07. можаш для кагосьці страціць галаву! Цешся кожнай супольнай хвілінай. У спараваных Рыбах крыху складанасцей, прытым з-за драбязы (можа быць небяспечна!). Пара выбрацца на сямейную паездку, асабліва калі дома спрэчкі. 7-9.07. з магчымай кабалы паможа табе вырвацца Месяц — праводзь цяпер усе важныя размовы; маеш шанц арыгінальна справіцца з выклікамі.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Адсвяткавалі 30-годдзе Беларускага музея ў Гайнаўцы



Заслужаныя для будовы і дзейнасці белмузея (злева:) Васіль Сакоўскі, Аляксей Харкевіч, віцэ-старшыня музейнага аб'яднання Аляксандр Харкевіч і Пётр Байко



Заслужаныя для будовы і дзейнасці белмузея (злева:) былы дырэктар Ян Карпюк, мастак Віктар Кабац, віцэ-маршалак Валянцін Карыцкі, віцэ-старшыня музейнага аб'яднання Ян Карчэўскі, былы старшыня музейнага аб'яднання Ян Хіліманюк і архітэктар Ян Кабац

Зараз на той тэрыторыі Беласточчыны, дзе кампактна пражываюць беларусы, музейныя экспанаты можна ўбачыць у школьных і гмінных рэгіянальных ізбах, прыватных музеях, якія засноўваюць уласнікі агратурыстычных кватэр, у прыхадскім музеі „Бацькаўшчына” ў Рыбалах, у Студзіводскім музеі малой айчыны, ці часова ў Ратушным музеі ў Бельску-Падляшскім. Аднак сімвалам музейнай актыўнасці беларусаў у Польшчы быў і надалей з'яўляецца Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы. Атаясамліваецца ён перадусім з яго галоўным будаўніком Канстанцінам Майсенем, які ажно да сваёй хваробы вельмі многа клапаціўся пра пабудову, а пасля абсталёўванне і дзейнасць Беларускага музея і на прывезеным з Беларусі „рафіку” з'ездзіў са сваімі памочнікамі ўсю тэрыторыю, дзе жывуць беларусы, збіраючы даўнія прылады працы і вырабы для будучага музея. Зараз экспанаты прэзентуюцца ў ім на прафесійна падрыхтаваных пастаянных экспазіцыях. Белмузей арганізаваў таксама шматлікія часовыя мастацкія выставы, майстар-класы, музычныя канцэрты, спектаклі, агляды беларускіх фільмаў, сустрэчы з літаратарамі, гісторыкамі і грамадскімі дзеячамі. Па нашых вёсках і на музейнай плошчы ладзіў ён беларускія фэсты, а ад двух гадоў арганізуе беларускі этнаграфічны фестываль „Культура на музейных сходах”. Музей, у якім працуе вялікая бібліятэка, наведваюць мясцовыя і прыезджыя беларусы, а таксама турысты.

9 чэрвеня 2013 года ў кіназале Беларускага музея ў Гайнаўцы спаткаліся яго будаўнікі і многа запрошаных асоб, каб адзначыць юбілей 30-годдзя будовы і дзейнасці белмузея. Сярод сабраных былі прадстаўнік Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі Яраслаў Малэцкі, сенатар Уладзімеж Цімашэвіч, віцэ-маршалак Падляшскага ваяводства Валянцін Карыцкі і ваяводскі радны Мікола Яноўскі, бурмістр Гайнаўкі Юры Сірак, былы бурмістр Анатоль Ахрыцюк і старшыня Гайнаўскай гарадской рады Ала Грыц, войт Гайнаўскай гміны Вольга Рыгаровіч, войт Чыжоўскай гміны Юры Васілюк і дырэктар Публічнай бібліятэкі ў Гайнаўцы Галіна Вайсковіч. Ад беларускіх арганізацый прыбылі старшыня Беларускага саюза ў РП Яўген Вапа і старшыня аб'яднання „Музей малой айчыны ў Студзіводах” Дарафей Фіёнік, а ад імя беларусаў з Рэспублікі Беларусь прыехалі Берасцейская група „Творчасць” і дырэктар Культурнага цэнтра Беларусі пры Пасольстве Рэспублікі Беларусь у Польшчы Эдуард Швайко, які зачытаў ліст ад амбасадара РБ Віктара Гайсёнка. Госці віншавалі музейных будаўнікоў, дзеячаў і працаўнікоў музея з юбілеем. Перад сабранымі выступіў вакальна-інструментальны калектыў „Гай” з Беластока. Дырэктар белмузея Тамаш Ціханюк з дапамогай мультымедыйнай прэзентацыі расказаў пра гісторыю пабудовы і дзейнасці Беларускага музея ў Гайнаўцы, распачынаючы аповед ад Беларускага этнаграфічнага музея, які раней дзейнічаў у Белавежы. Абапіраўся ён між іншым на здымкі, што змешчаны ў выдадзенай музейным аб'яднаннем, пад яго рэдакцыяй, кніжцы „Беларускі музей у Гайнаўцы. 30 гадоў — гісторыя — факты — людзі”, якую атрымалі ўсе сабраныя. У выданні прадстаўлены нарыс пра будову і дзейнасць музея, паказана постаць галоўнага будаўніка Канстанціна Майсені, змешчаны рэфлексіі яго будаўнікоў і супрацоўнікаў. У кніжцы — 150 здымкаў з музейнага архіва, якія прадстаўляюць музейную і культурна-асветную дзейнасць гайнаўскай музейнай установы.

— Наш музей будавалі беларусы з цэлага свету, дасылаючы сродкі на будову з розных кантынентаў. Нашыя беларусы многа працавалі на грамадскіх пачатках. Вельмі многа дапамагла Рэспубліка Беларусь, у асноўным будаўнічымі матэрыяламі, — сказаў дырэктар Тамаш Ціханюк і звярнуў таксама ўвагу на дапамогу польскага ўрада і мясцовых самаўрадаў, у галоўным горада Гайнаўкі.

Мясцовыя беларусы будову ўспамагалі фінансава і збіралі экспанаты. Шмат прысутных былі ўзнагароджаны дыпломам Тамашам Ціханюком за працу ў карысць пабудовы і дзейнасці Беларускага музея. Пасля афіцыйнай урачыстасці можна было паглядзець выставу пра гісторыю пабудовы і дзейнасці белмузея, а за пачастункам паразмаўляць пра мінулае і сённяшняе.

— Я звязаны з Беларускім музеем ад самага пачатку і аддаў яму свае сілы і энергію. Лічу, што варта было гэтае рабіць, бо тут жыве беларуская ідэя і дзейнічае наш беларускі асяродак, — заявіў былы настаўнік Гайнаўскага белліцэя Аляксей Харкевіч.

Падчас мерапрыемства перад сабранымі выступіў Станіслаў Кастэра, тадышні начальнік горада, які перадаў на будову музея плошчу і будынкі дрэваапрацоўчага прадпрыемства. Звярнуў ён увагу на будаўнічы кааператыў „Чын” з Гайнаўкі, які будаваў Беларускі музей. У час хваробы і пасля смерці Канстанціна Майсені будовай і дзейнасцю музея кіраваў яго ранейшы намеснік, а пасля старшыня музейнага аб'яднання Ян Хіліманюк, які таксама прыбыў на ўрачыстасць. Прысутнічаў таксама і першы дырэктар белмузея Ян Карпюк. Былы настаўнік беларускай мовы ў Гайнаўскім белліцэі і заадно адзін з галоўных будаўнікоў музея Васіль Сакоўскі звярнуў увагу на мінулае белмузея.

— 29 чэрвеня 1983 года быў створаны „Грамадскі камітэт пабудовы музея помнікаў беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху ў Гайнаўцы”. Такая была першая назва. Старшынёй камітэта быў абраны Канстанцін Майсеня, намеснікам — Янка Хіліманюк. Пачалася доўгая і карпатлівая работа старшыні грамадскага камітэта, яго членаў і ўсіх прыхільнікаў беларускага музея... У 1989 годзе наступілі вялікія палітычныя змены ў Польшчы і „Музей рэвалюцыйнага руху” стаў не толькі непатрэбным, а нават як бы кампраметуючым польскае грамадства. Вось так, па волі лёсу, з двух задуманых музеяў астаўся толькі адзін — „Музей помнікаў беларускай культуры”, які ў народзе пачалі называць проста „Беларускі музей”, — напісаў у выдадзенай кніжцы былы настаўнік Васіль Сакоўскі, успамінаючы таксама пра людзей заслужаных для будовы музея (між іншым хроніку вёў Юліян Казбярук), які зараз называецца „Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы”. — Многія з гэтых добрых і адданых беларускай справе людзей, звязаных з паўстаннем музея, на жаль, ужо не жывуць. 12 кастрычніка 2006 года, пасля доўгай і цяжкай хваробы, памёр найбольш заслужаны яго стваральнік Канстанцін Майсеня. Няма ўжо ў жывых Панцеляймона Мароза, Міколы Нікалаюка, Аляксандра Іванюка, Сяргея Харкевіча, Міхася Голуба і многіх іншых. Няхай усім ім зямелька будзе пухам...

Стратэгія дзейнасці Беларускага музея вырашаецца ў аб'яднанні „Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы”, таму папрасіў я намесніка старшыні гэтай арганізацыі Аляксандра Харкевіча (у час мерапрыемства не было старшыні Міраслава Мордана) выказацца накont планаў.

— Трэба шукаць сродкаў на завяршэнне ўсіх будаўнічых работ. Думаю, што добра было б яшчэ раз звярнуцца за фінансавай дапамогай да Польска-швейцарскай камісіі залатавых сродкаў, якая ўспамагла наш музей 508 тысячамі злотых на завяршальныя будаўнічыя працы, а зараз фінансуе будову пагранперахода ў Семяноўцы. Аптымальная колькасць штатаў у музеі гэта 20-22 поўныя штаты, якія патрэбныя, каб музей мог весці шырэйшую музейную, даследчыцкую і культурную дзейнасць. Трэба нам думаць як раздабыць сродкі на новыя штаты і яшчэ шырэйшую дзейнасць, — сказаў намеснік старшыні аб'яднання Аляксандр Харкевіч.

Пра ангажаванасць моладзі ў дзейнасць музея расказаў віцэ-старшыня аб'яднання Янка Карчэўскі:

— Я і іншыя настаўнікі беларускай мовы з Гайнаўкі і наваколля наведваем з вучнямі выстаўкі ў музеі, моладзь прыходзіць у музей у час розных мерапрыемстваў. Пазнаёміцца з мастацкімі выстаўкамі прыходзяць нашыя вучні таксама з Бажэнай Ляўчук, настаўніцай мастацтва. Маладыя асобы прымаюць удзел у майстар-класах, спектаклях, аглядах фільмаў, канцэртах і між іншым у „Мастацкіх сустрэчах школьнікаў”, што ладзяцца ў музеі, — сказаў настаўнік беларускай мовы ў Гайнаўскім белліцэі і заадно намеснік старшыні музейнага аб'яднання Янка Карчэўскі.

Міхал Байко з Белавежы напомніў пра першапачатковую задуму збудаваць скансэн побач мураваных будынкаў музея і праваслаўнай часоўні ў ім. Віцэ-старшыня аб'яднання Аляксандр Харкевіч гаварыў, што зробіць захады ў напрамку будовы праваслаўнай часоўні.

— Самы вялікі козыр Беларускага музея ў Гайнаўцы — вялікая плошча выставачных зал, дзе можна арганізаваць пастаянныя музейныя экспазіцыі і часовыя музейныя і мастацкія выставы, — сказаў гайнаўскі беларускі мастак Віктар Кабац, што ладзіў у музеі мастацкія выставы і прымаў удзел у наладжванні пастаянных музейных экспазіцый.

Віцэ-старшыня аб'яднання Аляксандр Харкевіч удакладніў, што зараз у белмузеі плошча выставачных залаў складае 920 квадратных метраў, музей распалажаны на плошчы 2700 квадратных метраў, а ўчастак, на якім знаходзіцца музей, налічвае 0,8 гектара. Прысутны ў час святкавання навуковы супрацоўнік Аддзялення архітэктуры Політэхнічнага інстытута ў Беластоку, наш славуты архітэктар Ян Кабац, які запраектаваў будынкі музея і іх абсталяванне, а пазней таксама царкву Нараджэння Іаана Хрысціцеля ў Гайнаўцы, быў рады, што ў музейных памяшканнях дзейнічае музей, які наведваюць людзі, згодна з задумай яго стваральнікаў.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

ISSN 0546-1960